ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і Мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 46 (2572)
ПЯТНІЦА
12
лістапада 1971 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Ф. М. ДАСТАЕЎСКІ

Мал. В. ЗАБОРАВА.

## У НУМАРЫ ЧЫТАЙЦЕ:



**У 1846** ГОДЗЕ ў «Пецярбургскім зборніку» М. А. Някрасава ўбачыла свет невялікая аповесць невядомага нікому маладога аўтара пад назвай «Бедныя людзі». В. Р. Бялінскі, яшчэ ў рукапісе прачытаўшы гэтую аповесць, прыйшоў ад яе ў захапленне. «Утрапёны Вісарыён» разам з Някрасавым тут жа, адразу, захацеў пабачыцца, пазнаёміцца з маладым чалавекам, што гэтак уразіў яго і сілай пачуццяў, і высокай мастацкасцю. Неўзабаве Бялінскі даў усхваляваны водгук на яе, у якім было сказана, што малады пісьменнік упершыню ў рускай літаратуры намаляваў лёс «маленькага чалавека», як сацыяльную трагедыю, а ў бяспраўнай і забітай асобе адкрыў глыбокую чалавечнасць. З гэтай аповесцю ў вялікую рускую літаратуру ўвайшоў геніяльны мастак Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі...

Адзначаючы стопяцідзесяцігоддзе з дня нараджэння Ф. М. Дастаеўскага, сёння ўвесь свет аддае даніну пашаны яго незвычайнаму таленту. У творах Дастаеўскага спалучыліся з выключнай сілай праніклівы псіхалагізм, інтэлектуальная глыбіня мысліцеля і страснасць публіцыста. Ён здолеў перадаць у паўнакроўных мастацкіх вобразах — праз напружанае развіццё канфліктаў, экспрэсію, згушчанасць пісьма — не толькі плынь падзей, чалавечых лёсаў, душэўную барацьбу, але і трагічныя сутыкненні і супярэчнасці ў духоўным жыцці грамадства, у нетрах якога нараджаліся, выспявалі і дужэлі ў бязлітаснай барацьбе новыя сацыяльна-грамадскія сілы.

Дастаеўскі дамогся незвычайных мастацкіх адкрыццяў, сіла і значэнне якіх не меншаюць з часам. І гэтыя адкрыцці сталі сёння набыткам усёй сусветнай літаратуры, яны апладняюць пошукі выдатнейшых майстроў слова ў розных кутках планеты. Мастацкай, гуманістычнай спадчыне Дастаеўскага суджана бяссмерце.

Матэрыялы, прысвечаныя 150-годдзю з дня нараджэння Ф. М. Дастаеўскага, чытайце на стар. 4—5.

# НЕЎМІРУЧАСЦЬ КАСТРЫЧНІКА



**Ідуць кастрычніцкія калоны. У іх святочным маршы — адданасць партыі, любоў да Радзімы, вернасць ідэалам камунізма.**

**Гэты здымак зроблены ў часе дэманстрацыі працоўных Мінска 7 лістапада 1971 г. нашым фотакарэспандэнтам Ул. Крукам.**

# ПРЫЗНАННЕ!

Па традыцыі 7-га лістапада, у дзень гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, цэнтральныя і рэспубліканскія газеты публікуюць Пастановы Цэнтральнага Камітэта КПСС і Савета Міністраў СССР аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій СССР у галіне навукі, тэхнікі, літаратуры, мастацтва і архітэктуры. Высокае званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР надаецца вучоным, інжынерам, канструктарам, тэхнікам і рабочым, пісьменнікам, мастакам, кампазітарам, кінематаграфістам, архітэктарам, работнікам тэатра за найбольш выдатныя работы ў галіне навукі, тэхнікі, літаратуры і мастацтва, за работы, якія вызначаюць кірункі навуковага і тэхнічнага прагрэсу нашай краіны, якія з'яўляюцца найбольш важкім укладам у развіццё культуры і мастацтва савецкіх народаў.

І радасна, што сярод лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года нямала імён работнікаў навукі, тэхнікі і культуры нашай рэспублікі.

За работы па палеапатамалогіі, будове алювію і гісторыі вялікіх прарэк Рускай раўніны ў антрапагене лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі СССР стаў акадэмік Акадэміі навук БССР, загадчык сектара лабараторыі геахімічных праблем АН БССР **Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі.**

У галіне ж навукі — за комплекс работ па беларускай лінгвагеаграфіі — высокага звання лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года ўдастоены: член-карэспандэнт Акадэміі навук СССР, загадчык сектара Інстытута рускай мовы АН СССР **Рубен Іванавіч Аванесаў**, віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР, былы дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР **Кандрат Кандратавіч Атраховіч (Кандрат Крапіва)**, член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР, загадчык сектара Інстытута мовазнаўства АН БССР **Юзэфа Фларыянаўна Мацкевіч**, доктар філалагічных навук, загадчык сектара Інстытута мовазнаўства АН БССР **Мікалай Васільевіч Бірыла**, доктар філалагічных навук **Ніна Трафімаўна Вайтовіч**, кандыдаты філалагічных навук, супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства АН БССР **Аляксандр Антонавіч Крывіцкі**, **Ганна Уладзіміраўна Арашонкава**, **Яўгенія Міхайлаўна Рамановіч**, **Алена Іванаўна Чабярук**, доктар філалагічных навук, прафесар Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага **Аляксей Пятровіч Груцо**, кандыдат філалагічных навук, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна **Анцінея Рыгораўна Мурашка** і філолаг **Вольга Міхайлаўна Шэлег.**

Вялікая група работнікаў вытворчасці Беларусі стала лаўрэатамі Дзяржаўнай прэміі СССР у галіне тэхнікі. Сярод іх: былы начальнік цэха Мінскага трактарнага завода **Якаў Аляксеевіч Цімашэнка**, прафесар, былы галоўны канструктар МТЗ **Іван Іосіфавіч Дронг**, галоўны інжынер МТЗ **Пётр Іванавіч Байкоў**, намеснікі галоўнага канструктара МТЗ **Віктар Уладзіміравіч Войцікаў** і **Пётр Якаўлевіч Прыцкер**, трактарыст-выпрабавальнік МТЗ **Марат Дзмітрыевіч Глузд**, дырэктар МТЗ **Мікалай Мікітавіч Слюнькоў**, намеснік галоўнага інжынера МТЗ **Валянцін Андрэевіч Шышонак**, слесар Мінскага завода спецыяльнага інструменту і тэхналагічнай аснасткі **Андрэй Піліпавіч Кузняцоў**, дырэктар Мінскага маторнага завода **Уладзімір Аляксеевіч Ражкоў** — за стварэнне і асваенне серыйнай вытворчасці уніфікаваных колавых, паўгусенічных і гусенічных трактараў класаў 1,4—2 тоны цягі на аснове базавай мадэлі «Беларусь» МТЗ-50 для комплекснай механізацыі вырошчвання прапашных культур; дырэктар Аршанскага станкабудаўнічага завода «Чырвоны барацьбіт» **Ціверый Міхайлавіч Захаранка**, работнікі завода — галоўны інжынер **Анатоль Кірылавіч Міласердны**, былы галоўны інжынер **Піня Майсеевіч Пільч**, намеснік галоўнага інжынера **Яўген Іосіфавіч Кавалёў**, галоўны тэхнолаг **Барыс Сяргеевіч Малышаў**, галоўны інжынер Віцебскага СКБ зубаапрацоўчых, шліфавальных і заточных станкоў **Васіль Акімавіч Грыгор'еў** — за стварэнне і асваенне на Аршанскім станкабудаўнічым заводзе «Чырвоны барацьбіт» паказальнага комплексна-механізаванага вырабу станкоў высокай і асабліва высокай дакладнасці, унікальнага па маштабах выпуску, тэхналогіі, арганізацыі вытворчасці і працы.

Сярод лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР 1971 года ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры, поруч з імёнамі паэта Аляксандра Твардоўскага, пісьменніка Вадзіма Кажэўнікава, народных артыстаў СССР Бэлы Рудэнка, Арама Хачатурана, Сяргея Герасімава, Алега Жакава, народнага мастака РСФСР Юрыя Васняцова і іншых, — імёны беларускіх архітэктараў **Віктара Ніканавіча Емельянава** і **Георгія Уладзіміравіча Заборскага**, а таксама старшыні калгаса «Прагрэс» Гродзенскага раёна **Фёдара Пятровіча Сянько**. Яны ўдастоены звання лаўрэатаў за планіроўку і забудову сельскага пасёлка Верцялішкі — цэнтра калгаса «Прагрэс».

Наданне работнікам навукі, вытворчасці і архітэктуры Беларусі званняў лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР — прызнанне тых поспехаў, якіх дасягнуў наш народ у камуністычным будаўніцтве, яскравае сведчанне клопатаў партыі і ўрада аб развіцці і росквіце навукі, культуры, народнай гаспадаркі савецкіх рэспублік. Высокая адзнака да многага абавязвае. Віншуючы новых лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі СССР, мы ўпэўнены, што яны з гонарам будуць і далей несці сцяг савецкай навукі, тэхнікі і культуры, памнажаць матэрыяльныя і духоўныя здабыткі нашага народа.

## ПАМЯЦІ Ф. М. ДАСТАЕЎСКАГА

10 лістапада ў сяле Дастоева Брэсцкай вобласці ў мясцовым Доме культуры адбыўся ўрачысты вечар, прысвечаны 150-годдзю з дня нараджэння Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага. З дакладам «Дастаеўскі і сучаснасць» выступіў дацэнт Брэсцкага педагагічнага інстытута А. Майсейчык. Беларускія паэты А. Астрэйка, Р. Няхай, А. Зарыцкі і іншыя расказалі аб творчасці Ф. Дастаеўскага, прачыталі свае вершы.

У Дастоеве жылі продкі Ф. Дастаеўскага. Зараз гэта вялікае сяло. У цэнтры — будынак новай сярэдняй школы, гандлёвага комплексу, дзіцячага сада. Непадалёк — Дом культуры з вялікай бібліятэкай і пакоямі для работы гурткоў мастацкай самадзейнасці. У Дастоеўскай сярэдняй школе створаны музей.

●

У сувязі з 150-годдзем з дня нараджэння класіка рускай літаратуры Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага Савет Міністраў БССР прыняў пастанову прысвоіць яго імя Дастоеўскай сярэдняй школе Іванаўскага раёна Брэсцкай вобласці. Цяпер яна будзе называцца Дастоеўская сярэдняя школа імя Ф. М. Дастаеўскага.

**БЕЛТА.**

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЙ!

*За плённую работу ў галіне развіцця музычнай культуры рэспублікі і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў загадчыка кафедры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага, мастацкага кіраўніка хору Беларускага тэлебачання і радыё Ройду Віктара Уладзіміравіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.*

## ДА 80-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ М. БАГДАНОВІЧА

5 лістапада адбылося пасяджэнне ўрадавай юбілейнай камісіі па святкаванні 80-годдзя з дня нараджэння Максіма Багдановіча.

У рабоце камісіі прынялі ўдзел першы намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР І. Шамякін, народны паэт БССР А. Куляшоў, старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР Р. Шырма, сакратар ЦК ЛКСМБ Г. Анціпаў, намеснік міністра культуры БССР А. Ваніцкі, намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома М. Жукоўскі, адказны сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў БССР М. Ткачоў, паэт М. Аўрамчык і іншыя.

Распрацаваны шэраг мерапрыемстваў па ўвекавечанні памяці М. Багдановіча, выданні зборніка музычных твораў на яго словы, упарадкаванні магілы паэта ў Ялце.

80-годдзе М. Багдановіча будзе шырока адзначана ў рэспубліканскім, абласным і раённым друку, па радыё і тэлебачанні, у школах і навучальных установах рэспублікі.

Тэатр чытальніка Мінскага педінстытута сумесна з Бюро прапаганды мастацкай літаратуры СП БССР падрыхтаваў пад кіраўніцтвам А. Каляды цікавую літаратурна-музычную кампазіцыю па творах паэта.

7 снежня гэтага года ў памяшканні тэатра імя Я. Купалы намечана правесці агульнагарадскі вечар, прысвечаны 80-гадоваму юбілею М. Багдановіча.



**3 ЛІСТАПАДА, у дзень нараджэння Якуба Коласа, ля яго магілы сабраліся сваякі, сябры, пісьменнікі, навуковыя работнікі...**

# ВЯЛІКАГА НАРОДА

ванасці дзекабрыстаў, петрашэўцаў ад народа, і ў сувязі з гэтым іх слабасці, ізаляванасці. Пачынаючы з часоў катаргі і высылкі, Дастаеўскі ўпарта вылучае на першае месца пытанне аб народзе, аб актыўнай ролі народных мас у вырашэнні лёсаў мінулага і будучага Расіі, абгрунтоўвае погляд на народ як на гістарычную «глебу», у адрыве ад якой бясплённая дзейнасць нават самай выдатнай асобы.

Але Дастаеўскі імкнецца асэнсаваць сутнасць народнага светаадчування з адцягнена метафізічных пазіцый, разумеючы народную маральна-этычную ацэнку той ці іншай з'явы як нязменную. Неразуменне катаржным людам ідэй дваранскіх рэвалюцыянераў, яго абыякавасць да іх, з'яўляецца паводле Дастаеўскага, вынікам непрыняцця гэтых ідэй маральна-этычным пачуццём народа.

Аднабаковы, глыбока памылковы погляд, вынесены Дастаеўскім з трагічных катаржных перажыванняў, а таксама з гістарычнага вопыту 50—60-х гадоў, паслужыць грунтам для яго далейшых ідэалагічных высноў, абумовіць вострыя супярэчнасці яго светапогляду і творчасці 60—70-х гадоў.

Дастаеўскі адмаўляецца ад прагрэсіўна-дэмакратычных ідэалаў, якія натхнялі яго раней, у гады ўдзелу ў перадавым грамадскім руху.

У той час, калі Дастаеўскі вярнуўся ў Пецярбург, высветлілася, што так званае вызваленне сялян адбудзецца без зямлі. Пасля абвяшчэння маніфеста 19-га лютага па ўсёй Расіі пракацілася хваля сялянскіх паўстанняў.

У атмасферы наспявання рэвалюцыйнай сітуацыі Дастаеўскі актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. Гэтак жа, як Чарнышэўскі, Дабралюбаў, Някрасаў, ён добра ўсведамляе, што народныя масы і, у першую чаргу, сялянства з'яўляюцца асновай існавання нацыі. Народ ён называе «почвой». Але ў разуменні народнага жыцця Дастаеўскі рашуча разыходзіцца з рэвалюцыйнымі дэмакратамі.

Дастаеўскі ідэалізуе патрыярхальнасць рускага сялянства, лічыць найвялікшай вартасцю яго самабытнасць, маральную несапсаванасць, дабрыню, здольнасць адклікацца на чужое гора і г. д.

Усе гэтыя якасці, паводле Дастаеўскага, захаваліся ў рускім сялянстве дзякуючы таму, што яно не было закранута згубным уплывам заходне-еўрапейскай цывілізацыі, заснаванай на адмоўных пачатках голага разліку і эгаізму. Дастаеўскі рашуча (і часта несправядліва) вёў палеміку з Герцэнам, Дабралюбавым, Чарнышэўскім. Але з большай жорсткасцю, палымянасцю выступаў ён у аповесцях, раманах, публіцыстычных творах супраць буржуазных філасофскіх і сацыялагічных тэорый сваёй эпохі. Нярэдка ў сваіх вывадах Дастаеўскі быў бліжэй да сваіх праціўнікаў з лагера рэвалюцыйнай дэмакратыі, чым да аднадумцаў са славянафільскага лагера.

Дастаеўскі горача верыў у магутныя творчыя магчымасці рускіх народных мас і адначасна адварочваўся ад рэвалюцыйных імкненняў народа, лічачы рэвалюцыйную барацьбу выражэннем ідэалаў адарванай ад народнай «почвы» дваранскай інтэлігенцыі. Ён прапаведваў свой, адметны, духоўны «сацыялізм», які нібыта ўзнікае са стыхійнага яднання людзей на грунце іх маральнага адзінства.

Зыходзячы са свайго ідэалу, Дастаеўскі пачаў рашучую і ў многіх адносінах справядлівую крытыку заходне-еўрапейскай буржуазнай цывілізацыі, яе псіхалогіі і маралі, адмаўляў фальшывую, што існуе толькі фармальна, свабоду ў буржуазным грамадстве. «Якая свабода?—пісаў ён у «Зімніх нататках аб летніх уражаннях». — Аднолькавая свабода ўсім рабіць усё, што ўздумаецца, у межах закона. Калі можна рабіць усё, што хочаш? Калі маеш мільён. Ці дае свабода кожнаму па мільёне? Не. Што такое чалавек без мільёна? Чалавек без мільёна — гэта не той, які робіць, што захоча, а той, з якім робяць, што захочацца».

У 60—70-я гады Дастаеўскі стварыў свае геніяльныя раманы «Злачынства і пакаранне» (1866), «Ідыёт» (1868), «Падлетак» (1875) і «Браты Карамазавы» (1879—80).

Гісторыя злачынства Раскольнікава — героя рамана «Злачынства і пакаранне»—адбываецца на шырокім фоне сацыяльнага жыцця буржуазнага горада. Перад намі, з аднаго боку, прыніжаныя і зняважаныя, з другога, тыя, хто, маючы багацце і ўладу, іх зневажаюць і прыніжаюць. Перад чытачом шэраг людзей з сацыяльных нізоў — атручаны пастаянным п'янствам чыноўнік Мармеладаў, яго жонка Кацярына Іванаўна, што памірае ад сухотаў, маці і сястра Раскольнікава, якія яшчэ там, у правінцыі, зведалі нягоды залежнага, паднявольнага жыцця.

Вялікі пісьменнік з незвычайным псіхалагічным майстэрствам малюе перажыванні бедняка, якому нечым заплаціць гаспадару за кватэру, паказвае пакуты дзяцей, што жывуць у змрочным сутарэнні, сярод п'янай лаянкі, вечных спрэчак, раскрывае трагедыю чыстай у сваіх імкненнях дзяўчыны, якая, каб падтрымаць сям'ю, вымушана ісці на вуліцу, прадаваць сябе. Адлюстраванне пакут, якія выкліканы падзелам грамадства на багатых і бедных, на тых, хто валодае ўладай, і бяспраўных, намаляваныя карціны згубнай сілы грошай — усё гэта прасякнута ў Дастаеўскага непадробным гуманізмам, «болем аб чалавеку», як пісаў Дабралюбаў, усё нясе магутны выбуховы зарад адмаўлення буржуазных парадкаў, якія нявечаць і калечаць чалавека. Імкненне пакінуўшага вучобу, беднага, азлобленага студэнта Раскольнікава, які забівае старую ліхвярку-працэнтшчыцу, каб забраўшы яе грошы, выратаваць «сотні маладых жыццяў», паказваецца Дастаеўскім як трагедыя, як поўны крах ілюзій ушчэмленай у сваёй годнасці асобы ва ўмовах капіталістычнага жыцця. Паводле задумы пісьменніка, Раскольнікаў паўстае як яркі, па-свойму выдатны носьбіт прынцыпаў «рацыяналістычнасці», індывідуалізму, што прыйшлі з буржуазнага Захаду і ўзбаламуцілі розум некаторых адукаваных рускіх людзей.

Дастаеўскі праявіў глыбокую праніклівасць, убачыўшы ў буржуазных адносінах спрыяльную глебу для росту індывідуалізму. Ён намаляваў цэлую галерэю характараў жорсткіх бунтароў-адзіночак, што помсцяць грамадству, грунтуючыся на яго «воўчых» законах — ад кар'ерыстаў, накшталт Гані Івалгіна з «Ідыёта» да «высокіх» ідэолагаў, як Іван Карамазаў з рамана «Браты Карамазавы».

Карціны паслярэформеннай ломкі рускага грамадства, няўстойлівасць жыцця, крызіс традыцыйнай маралі раскрылі перад Дастаеўскім небяспеку, што пагражае найменш устойлівай мяшчанска-разначыннай частцы гарадскога насельніцтва, якая магла пайсці на прыманку буржуазна-анархічных ідэалаў і настрояў, атуленых знешнім бляскам пратэста, а ў сапраўднасці злавесных і рэакцыйных. Дастаеўскі тварыў у эпоху, калі ідэі духоўнага арыстакратызму, буржуазнага «звышчалавека» яшчэ не атрымалі шырокага распаўсюджання. Тым большая заслуга вялікага мастака, які здолеў разглядзець і ўбачыць пагібельнасць падобных ідэй. Эпоха імперыялізму пацвердзіла геніяльнасць некаторых прагнозаў вялікага рускага пісьменніка. Рэальным варыянтам праграмы Вялікага інквізітара, якая паўстае як плён злавеснага роздуму аднаго з герояў рамана «Браты Карамазавы», «высокага» ідэолага Івана Карамазава, магла б служыць практыка ашалелых куміраў нацыяналістычнага мяшчанства Гітлера, Мусаліні, соцень і тысяч іх паслядоўнікаў, што залілі крывёю сцэну нядаўняй сусветнай гісторыі.

Апошні раман Дастаеўскага «Браты Карамазавы» як бы падводзіць вынік яго шматлікім творчым пошукам і дасягненням. Адначасна ў ім з найбольшай сілай праявіліся супярэчнасці светапогляду і творчасці пісьменніка.

Раман быў напісан у час, калі ў краіне наспяваў рэвалюцыйны крызіс, у гады ўзмоцненага развіцця капіталізму ў Расіі і найвышэйшага ўздыму народніцкага руху. Нягледзячы на тое, што Дастаеўскі падзяляў некаторыя славянафільскія ідэі, адмоўна ставіўся да рэвалюцыйнага руху, ён востра ўсведамляў, што сучаснае яму рускае грамадства ахоплена сацыяльнымі ўзрушэннямі, што аб лепшай будучыні задумваюцца літаральна ўсе класы і слаі насельніцтва старой Расіі.

У сям'і Карамазавых, якая знаходзіцца ў цэнтры ўвагі пісьменніка, кіпяць тыя ж страсці, вырашаюцца тыя ж вострыя пытанні, што пастаўлены жыццём перад усёй агромністай краінай. Прадстаўнік старэйшага пакалення Карамазавых Фёдар Паўлавіч, цынік і распуснік, як бы ўвасабляе маральны распад дваранства ў паслярэформенную эпоху, яго поўную няздольнасць даць пазітыўны адказ на праблемы сучаснасці.

Старэйшы сын Фёдара Паўлавіча Дзмітрый нібыта і не пазбаўлены высакародных душэўных парыванняў, але ў той жа час ён не можа адолець у сабе нізкіх жаданняў і інстынктаў. Другі сын Іван — чалавек халоднага, аналітычнага розуму, скептык па натуры. Ад першапачатковых атэістычных перакананняў Іван прыходзіць да ўсялякага адмаўлення адказнасці асобы перад грамадствам. Менавіта Іван натхняе незаконнага сына Фёдара Паўлавіча і свайго брата Смердзякова на забойства бацькі.

З геніяльнай сілай малюючы ў рамане распад старых маральных і рэлігійных ідэалаў, норм паводзін, сувязей між людзьмі, Дастаеўскі па сіле выкрыцця, напалу страсцей, трагізму становіцца ўпоравень з Шэкспірам. Але выйсце, якое прапануе вялікі пісьменнік, сведчыць, што ў яго не было якой-небудзь завершанай сістэмы поглядаў на шляхі і перспектывы сацыяльна-этычнага развіцця Расіі і чалавецтва.

Не ведаючы навуковага сацыялізма, адмоўна ставячыся да рэвалюцыйных сіл краіны, што рыхтавалі глебу для будучай дэмакратычнай рэвалюцыі, Дастаеўскі супроцьстаўляе ў рамане адыходзячаму ў нябыт патрыярхальнаму жыццю свае рэакцыйныя утопіі рэлігійнага, праваслаўнага «сацыялізма». Іх выразнікам у творы з'яўляецца старац Засіма — духоўны настаўнік самага малодшага з Карамазавых — Алёшы.

Важна, аднак, сказаць, што Дастаеўскі, завяршаючы свой апошні раман, не хацеў, каб у чытача засталося ўражанне трагічнай безвыходнасці. Ён верыў, што светлыя шляхі ў будучыню знойдуць, калі не Алёша Карамазаў, то наступныя маладыя пакаленні. Гэтая глыбокая гуманістычная вера вялікага пісьменніка, выказаная ім у эпізодах пра «хлопчыкаў» і ў эпілозе рамана, дапамагае не толькі правільна разабрацца ў агульнай ідэйна-філасофскай атмасферы рамана, але захаваць верную перспектыву для ацэнкі ўсёй творчасці Дастаеўскага.

Свой мастацкі метад Дастаеўскі сам назваў «фантастычным рэалізмам» і «рэалізмам у вышэйшым сэнсе». Сапраўды, бадай, у кожным творы вялікага пісьменніка фарбы згушчаны, абставіны, у якія трапляюць героі, выключныя, пачуцці, страсці даведзены да вышэйшага напружання, паўсюдна відаць імкненне да крайняга псіхалагічнага перабольшвання, гіпербалы. На працягу ўсяго свайго творчага шляху захаваў Дастаеўскі палымяную цікавасць да самых істотных, кардынальных праблем чалавечага існавання, выключную схільнасць да маральна-этычных пошукаў, глыбокую палымянасць мастацкага мыслення.

Самыя адцягненыя філасофскія і маральна-этычныя ідэі Дастаеўскі як бы вывярае на жывых характарах сваіх герояў. Таму ў яго раманах так многа разваг, гарачых спрэчак, дыскусій. Яшчэ Луначарскі выказаў думку аб поліфанізме Дастаеўскага. Сапраўды, мы бачым герояў пісьменніка перш за ўсё таму, што чуем іх галасы, спрэчкі з другімі і з сабой, даведзеныя да экстазу, да маніякальнасці. Кожны прыкметны герой Дастаеўскага валодае ўласнай ідэяй-пачуццём і як бы ўвасабляе ў сабе гэтую ідэю.

Многія рускія і зарубежныя пісьменнікі адчувалі творчае ўздзеянне Дастаеўскага. З рускіх гэта Л. Андрэеў, Л. Ляонаў, К. Федзін, Ус. Іванаў, часткова М. Горкі. З зарубежных — Генрых Ман, Томас Ман, У. Фолкнер, Г. Бёль і многія іншыя. Беларуская літаратура ў асобе такіх яе выдатных прадстаўнікоў як Якуб Колас, Кузьма Чорны таксама развівала некаторыя творчыя прынцыпы і ідэі Дастаеўскага.

Мара Дастаеўскага аб наступленні ў Расіі «царства думкі і святла», яго палымянае жаданне таго, каб рускі народ адкрыў шлях для светлай будучыні ўсяго чалавецтва, здзейсніліся ў выніку Вялікага Кастрычніка. Адкідваючы рэакцыйнае, мёртвае, мы высока цэнім спадчыну Дастаеўскага, як арганічную, неаддзельную частку вялікай гуманістычнай рускай літаратуры. Геніяльная творчасць Дастаеўскага заняла трывалае месца ў мастацкай скарбніцы чалавецтва.

---

ў сям'і ўрача Марыінскай бальніцы М. А. Дастаеўскага нарадзіўся сын Фёдар — будучы вялікі пісьменнік.

Ці быў Ф. Дастаеўскі ў Беларусі? Не, не быў. Але мы ведаем, што пісьменнік некалькі разоў імкнуўся пабываць у гасцях на Віцебшчыне, дзе жыла наша зямлячка, пісьменніца і рэвалюцыянерка Ганна Васілеўна Корвін-Крукоўская. Прыкладна ў красавіку 1866 года Ф. Дастаеўскі ў пісьме паведамляў Г. Корвін-Крукоўскай аб сваёй рабоце над раманам «Злачынства і пакаранне» і аб тым, што ён хацеў бы прыехаць летам у Палібіна. Пра яго намер прыехаць на Віцебшчыну мы таксама даведваемся з другога пісьма ад 17 чэрвеня 1866 года. У ім пісьменнік зноў прызнаваўся Г. Корвін-Крукоўскай: «Мне б вельмі, вельмі хацелася пагасцяваць у Вас у Палібіне».

Аднак Ф. Дастаеўскаму так і не ўдалося пабываць у Палібіне з-за інтэнсіўнай літаратурнай работы.

□

У гады Савецкай улады пра Ф. Дастаеўскага напісана шмат кніг, артыкулаў у часопісах і газетах, у тым ліку і ў беларускіх выданнях.

Шмат робіцца ў сяле Дастоева Іванаўскага раёна для папулярызацыі творчасці Ф. Дастаеўскага. У будынку Дастоеўскай сярэдняй агульнаадукацыйнай працоўнай політэхнічнай школы ёсць куток-музей імя пісьменніка. На стэндзе ў рамках вісяць выпіскі з архіўных дакументаў пра гістарычнае мінулае Дастоева, партрэты продкаў пісьменніка і яго самога, іншыя гістарычныя матэрыялы.

У школе праводзіцца разнастайная работа па прапагандзе рускай і беларускай літаратуры не толькі сярод навучэнцаў, але і ўсяго насельніцтва. Даволі сказаць, што з вялікім поспехам прайшлі вечары, прысвечаныя жыццёваму і творчаму шляху Ф. Дастаеўскага і М. Някрасава.

Часта бацькі вучняў і самі вучні выступаюць з паведамленнямі, дакладамі. Так, адзін са старэйшых калгаснікаў Аляксандр Сахарчук у лекторыі для бацькоў пры школе выступіў з цікавым дакладам «Заахвочванне і пакаранне».

Шмат сіл уклаў у папулярызацыю літаратурнай спадчыны свайго славутага дзеда адзін з яго нашчадкаў — прафесар механікі Андрэй Фёдаравіч Дастаеўскі, які жыў у Ленінградзе. Яго цікавіла мінулае і сучаснае сяла Дастоева.

У лісце да супрацоўнікаў Брэсцкага краязнаўчага музея Андрэй Фёдаравіч пісаў: «Таксама, як і ў Ленінградзе, я стаўлю на першую чаргу ўсе намаганні па арганізацыі будучага музея і ўсяляк падтрымліваю энтузіязм некаторых на заснаванні помніка Ф. М. Дастаеўскаму, лічачы яго ў другой чарзе: падобна гэтаму, думаецца, што на Брэстчыне правільней за ўсё будзе ўсямерна садзейнічаць арганізацыі дабротнай экспазіцыі па Дастаеўскім пры Дастоеўскай сярэдняй школе, а другой чарговай лічыць арганізацыю «дастоеўскай» экспазіцыі пры Брэсцкім краязнаўчым музеі».

Цесную сувязь А. Дастаеўскі трымаў і з самім Дастоевам, дырэктарам мясцовай школы М. Раманавым.

У гэтыя дні куток-музей у Дастоеве папаўняецца новымі экспанатамі і дакументамі.

Мікола АРОЧКА

# АКТУАЛЬНАСЦЬ ПРАБЛЕМЫ І «СТРАСЦІ» АДНОЙ РЭПЛІКІ

У НАС НЕЯК непрынята ў дыскусійным абгаварэнні з адной і той жа трыбуны выступаць двойчы, але адчуванне непаўнаты свайго папярэдняга артыкула і нявысветленасці некаторых вельмі актуальных пытанняў грамадзянскага служэння нашай паэзіі прымушаюць мяне зноў папрасіць слова.

Перш чым гаварыць і спрачацца па сутнасці, хачу коратка спыніцца на закідах Р. Бярозкіна, што прагучалі ў яго «Толькі рэпліцы». («Літаратура і мастацтва», 15 кастрычніка 1971 г.). Вось некаторыя з іх: «І проста не верыцца, што якраз пра Блока... напісана чорным па белым: «праставатае захапленне «прыродай» з пераважнай слабасцю да розных выклічнікаў...»

Гэта добра сказана: «не верыцца»! І сапраўды няпроста паверыць у такі прымітыў: быццам я «чорным па белым» напісаў, скажам, такое пра Фета: «успрыманне прыроды Фета было праставатым і зводзілася да воклічу «ах»!

Ды няма ў мяне такіх радкоў ні ў адрас Блока, ні ў адрас Фета! Пра іх у мяне сказана ні больш, ні менш, чым азначаюць словы: «Сёння, на жаль, нельга ўжо адчуваць прыроду так, як адчуваў і пісаў пра яе Фет ці нават Блок».

Калі б мой апанент пачаў усур'ёз аспрэчваць гэта меркаванне, я вымушан быў бы пашырыць свае довады і, у прыватнасці, спаслацца на цікавую думку, якую аднойчы выказаў таленавіты савецкі крытык Аляксандр Макараў: «Мы да гэтага часу з прыемнасцю перачытваем, задавальняючы сваю духоўную патрэбу, лепшыя вершы Фета, але калі з'явіцца паэт, які будзе пісаць, як Фет, яго чытаць не будуць».

Але Р. Бярозкін у прынцыпе не аспрэчвае гэтай думкі. «Страсці» рэплікі былі наклікаены якраз далейшымі радкамі, у якіх, шчыра кажучы, і сапраўды ёсць адна недакладнасць, што дазволіла крытыку зусім іншую трактоўку сказанага. Разумею: далейшыя радкі, што цытуе крытык, мне належала падаць так, каб яны — нават выхапленыя асобна з кантэксту — не давалі повадку для рознатытання і ўсім сваім сэнсам датычылі тых, каму, уласна, і адрасаваліся, — некаторым сённяшнім нашым паэтам (а не Фету і Блоку!). Шкада, што гэта падалося няясным...

Я дазволю сабе прывесці тут пачатак таго абзаца, што быў чамусьці апушчан Р. Бярозкіным, хоць гэты пачатак тут вельмі істотны, бо ён стварае той непадзельны, жывы кантэкст, які разрываць, на маю думку, нельга.

«Адыход у модную **на сённяшні дзень** (зараз падкрэсліваю гэта. — **М. А.**) «натурфіласофскую» лірыку, у доўгія прыродаапісанні з нагнятаннем «спісаных» з натуры дэталяў — гэта часовае. Мне гэта чамусьці нагадвае ўцёкі ад злабадзённых праблем, якія ставіць час перад паэзіяй» («Літаратура і мастацтва», 1 кастрычніка).

Такім чынам, гаворка ідзе аб трывожных сімптомах самаўхілення некаторых **нашых паэтаў** ад пошукаў мастацкіх каштоўнасцей на галоўным кірунку, які заўсёды складаў душу нашай паэзіі.

Дык спрачайцеся са мной, Рыгор Саламонавіч, па сутнасці праблемы, а не пераводзьце сур'ёзную размову ў такі абсурдны план: быццам я «аўтаматычным, так сказаць, шляхам» узношу А. Пысіна, А. Русецкага, Р. Барадуліна, Ю. Свірку «над» Фетам, Блокам, Багдановічам... Вось дзе сапраўды: «чорным па белым»! Проста не верыцца, што сёння ўвогуле так можна ставіць пытанне! Навошта? Каб толькі давесці маю «недаравальную глухату»? А самому — пабыць у ролі «абаронцы» тых, хто не мае ніякай патрэбы ў такой «абароне»?

Дарэчы, сама перасцярога — не турбуйце «цені вялікіх»! («Крытык турбуе яшчэ і Блока») — мне здаецца не зусім апраўданай. Па-першае, для нас вялікія мастакі слова — не ў нейкім «царстве ценяў» і, увогуле, не «цені», а сваімі творамі — жывыя сярод жывых. А па-другое, чаму б, незразумела, нам часцей і не звяртацца да іх мастацкага аўтарытэту, да іх узораў, каб выявіць, дзе творчая вучоба, дзе працяг, а дзе перапеў, моднае эпігонства?

А небяспека такога нятворчага пераймання ёсць. Усесаюзная крытыка даўно забіла трывогу аб наплыве шэрасці, безасабовасці, «ліра-пейзажнай» драбнатэмнасці, вершаў, якія нярэдка аказваюцца запозненымі падгалоскамі, перапевамі вялікіх майстроў — Цютчава, Фета... Небяспека ў модзе, што перарастае ў няплённую тэндэнцыю. Можна пагаджацца ці не пагаджацца з вядомым заклікам: «Наперад, да Пушкіна!» — у гэтым я не бачу асаблівай парадаксальнасці, бо разумею: на ўвазе маецца вольналюбівы, грамадзянскі дух пушкінскіх твораў. Але ж пагадзіцеся: як бы сяму-таму не хацелася ўзняць сёння кліч — «Наперад, да Фета!» — такі лозунг для нашай трывожнай эпохі не гучыць. Нядаўна ў «Литературной газете» Д. Галубкоў слушна пісаў пра дарэмныя спробы «пераіграць» Фета, «прадставіць яго паэтам ледзь не «мяцежным»... Таму і дзіўна, калі сёння размова аб грамадзянскасці становіцца часам расплывістай, калі само паняцце грамадзянскасці менавіта таму і размываецца, што некаторыя пачынаюць яе вышукваць у асабіста-інтымнай, нават камернай лірыцы (уключаючы славутае фетаўскае: «Шепот, робкое дыханье, трели соловья»).

Пра гэта я часткова таксама пісаў у сваім артыкуле.

Дык давайце ж гаварыць аб пытаннях, у якіх і сапраўды шмат нявысветленага, спрэчнага. Мы ведаем, як няпроста, а часам і немагчыма правесці нейкую мяжу паміж грамадзянскай і інтымнай лірыкай паэта (пасведчаць многія вершы П. Панчанкі, А. Куляшова, У. Сасюры і інш). Агульны працэс лірызацыі грамадзянскай паэзіі ў бок адкрытай шчырасці, размовы «адзін на адзін», у бок інтымнага даверу — заканамерны, нястрымны для нашага часу. Гэтак жа — як і «сустрэчны» працэс узвышэння інтымнай пачуццёвасці да гучання высокай грамадзянскасці. «У меня, по-моему, выходит лучше то, что говорю вполголоса», — піша ў сваім вершы В. Інбер. Справа ў высокім змесце, а не ў гучнасці прамаўлення ці сцішанасці лірычнага голасу. Важна, каб да грамадзянскасці не прыліпала пажоўклае лісце сузіральна-праставатага захаплення «натурфіласофскай» і ўсякай іншай «мікраскапічнай» лірыкі (увесь сэнс якой зводзіцца падчас толькі да воклічу «ах!»).

Я знарок паўтараю гэта «злашчаснае» «ах!», за якім і сам адчуваю шмат спрэчнага — наконт праваме рнасці нашага сённяшняга «ідылічнага» (такога слова я, вядома, ніколі б не сказаў пра Блока) любавання прыродай... Я, вядома, выглядаў бы катэгарычным, а яшчэ горш — збедненым у тых пачуццях, што не чужыя і мне, калі б адхіляў і не прымаў зусім не лішняе для паэзіі непасрэднае ўспрыняцце хараства роднай прыроды: натуральнасць чалавечага захаплення таемнай цішынёй вясковага надвячорка («Ціха свішчуць крылы позняй слонкі, лесавік падпальвае карчы» — М. Танка) або чысцінёй першага снегу (помніце ў Н. Гілевіча: «Цуд тварыўся — я праспаў...»).

Захапляючыся хараством прыроды, Ігар Шклярэўскі ў сваёй паэме «Дазорная галінка» («Неман», 1971, № 9) вымавіў не без шкадавання словы: «но сократила острая пила мою главу веселую о лесе...» Можна зразумець адчуванне паэта, на якога «пустое небо глянуло в упор», зрабіўшы нашу агульную радасць няпоўнай. Але ж чаму, сутыкнуўшыся з жыццёвай рэальнасцю, мы зачаста яшчэ пакідаем ненапісаным не толькі раздзел твора, якому б самы час з'явіцца, але і сам твор?

С. Гаўрусёў, пішучы для «ЛіМа» сваю рэцэнзію на кніжку А. Русецкага «Зямля гаворыць зорам», не сказаў, на жаль, пра грамадзянска-гуманістычную пазіцыю паэта ў дачыненні да прыроды. А ва мне ж адгукаецца голас паэта не толькі ў радках захаплення прыродай, але і тады, калі гэты голас узвышаецца да ўстрывожанасці («О, мы скваппыя, дзеля нажытку мы трушчым горы зуб'ем машын і птушыныя пушчы...», «Мы яшчэ спахопімся»).

Тое ж і ў вершы М. Танка, радкі з якога ўпаміналіся вышэй; хіба гэты твор («Дарогай з сенажаці») меў бы такое гучанне, калі б са «спакойнай», вечарова-пейзажнай плыні не ўздымаўся да трывожна-драматычнага абагульнення, што паспела ўжо стаць крылатым: «Можа, мы — апошнія паэты, што вось так цікавяцца зямлёй?»

Пад рукі мне трапіла першая кніжка з сілуэтам Пегаса («Мая вёска»), а ў ёй — наіўна-ружовая, досыць тыповая для сённяшняга паэтычнага «маладняка» літаратурная сузіральнасць радкоў пра адвечную бярозку, што ў аконца стукае галінай, пра вецер: «Гушкае песню на хвалях. Ей адклікаюцца далі, звоняць празрыстыя росы і падпяваюць бярозы»... А колькі такой літаратурна-прыгожай праставатасці, расчуленай заспакоенасці, а то і глыбакадумнай філасофіі «на пятачку» вандруе па зборніках і больш сталых нашых паэтаў!

Здавалася б, самы час нашай крытыцы паставіцца сапраўды крытычна да вясёлкава-сузіральнага наплыву вершатворчасці, у якой і не пахне высокім зместам.

Але дзіўна, што і ў крытыцы ёсць свае прыхільнікі «бакавых сцежак», «узбочын»; яны лічаць, што на «бакавых сцежках», на «перыферыі» жыцця якраз і трэба шукаць сёння неперахо дныя, «даўгавечныя» мастацкія каштоўнасці, а не на магістральных шляхах сацыяльнасці, грамадзянскасці. А вось тое, што ў папярэднім дзесяцігоддзі было створана на «магістральных шляхах», на быстрыні часу, яны сёння наўмысна ганьбуюць, замоўчваюць ці называюць «псеўдасацыяльнасцю», «эстрадай».

Нядаўна ў дыскусійным парадку на старонках «Литературной газеты» з'явіліся два шмат у чым процілеглыя, палярныя па сваім духу і накірунку артыкулы В. Кожынава і П. Панчанкі. Цікава, што Пімен Панчанка, як бы ў процівагу свайму апаненту, аб'ектыўна ацэньвае і ў адзін шэраг ставіць такіх добрых, хоць і розных паэтаў: «Што і казаць, вершы Андрэя Вазнясенскага, Яўгенія Еўтушэнкі, Роберта Раждзественскага, Мікалая Рубцова, Уладзіміра Сакалова палюбіла моладзь. Адкуль гэта ўвага? Эстрада?» Праўда, апошняе пытанне датычыцца, мабыць, першых трох названых аўтараў і тоіць у сабе адказ-нязгоду, а тым самым трапна б'е ў цэль даўняй, вострай палемікі, што не заціхае на ўсесаюзнай арэне.

І не дзіўна, што П. Панчанку нечым дужа імпануюць творы невыпадкова пастаўленых на першыя месцы таленавітых рускіх паэтаў, у якіх, дарэчы, ёсць шмат агульнага з некаторымі нашымі паэтамі, таксама названымі П. Панчанкам — з Р. Барадуліным, Н. Гілевічам, А. Вярцінскім, Г. Бураўкіным, Я. Сіпаковым, Ю. Свіркам і інш.

Калі іх лепшыя, глыбока праніклівыя, бескампрамісныя, шчыра-душэўныя вершы — «эстрада», то хвала менавіта такой «эстрадзе»!

На крытычнай ніве неспакойна. Сцвярджанне партыйных, высока-змястоўных, грамадзянскіх адносін да жыцця ідзе шляхам прынцыповых, вострых дыскусій, сутычак поглядаў, эстэтычных пазіцый — і ў выніку настойліва прабівае сабе дарогу.

Ці не лепш было б і нам з вамі, шаноўны Рыгор Саламонавіч, пусціць нашы «страсці» і ўвесь баявіты запал па рэчышчы актуальнай праблемы — на пошукі і ўзбагачэнне ідэйна-эстэтычных крытэрыяў і шляхоў далейшага грамадзянскага служэння і пранікнення нашай паэзіі ў жыццё — хіба не вымагае гэта праблема ад нас і шырокіх спрэчак і агульнага, заклапочанага роздуму?

---

веліч, нянавісць, гнеў... Але вось бяром кнігу Д. Бугаёва «Шчодрае сэрца пісьменніка» (1963):

«Ён паказаў **веліч** беларускага народа, яго маральную сілу, прыгажосць, яго непахісную **стойкасць у** самых складаных абставінах суровага змагання, яго **нянавісць** да гітлераўскіх варвараў, яго бязмежную адданасць...». (Стар. 185. Тут і далей падкрэслена мной. — **Л. Ф.**). На нашых вачах правільныя палажэнні становяцца агульным месцам, штампам. Хіба нельга сказаць гэта неяк пасвойму, адметна?

Чытаем «Гісторыю беларускай савецкай літаратуры», т. II (1964) на стар. 209:

«У якасці галоўнага героя эпапеі выступае беларускі народ, мужны і непахісны, вясёлы і дасціпны, грозны ў нянавісці і вялікі ў любві, бясконца адданы...»

Тое ж самае напісана ў школьным падручніку літаратуры для IX—X класаў Н. Перкіна і Ю. Пшыркова (1964, стар. 94):

«Непераможнымі герояў твора рабіла адданасць сацыялістычнай радзіме, непахісная вернасць грамадскаму абавязку, гарачае імкненне жыць свабоднымі грамадзянамі на вольнай савецкай зямлі».

Падобныя абзацы і сказы-блізняты знаходзім мы і ў манаграфіі П. Дзюбайлы «Беларускі раман аб Вялікай Айчыннай вайне», і ў кнізе Я. Герцовіча «Літаратура і жыццё народа».

Мы ведаем нямала прыкладаў, калі пра адны і тыя ж творы пісалі Бялінскі, Дабралюбаў, Пісараў, Чарнышэўскі. Якія непадобныя былі іх артыкулы! Яны не паўтаралі, не перапявалі адзін аднаго. Нашы ж аўтары, хочуць яны ці не, засушваюць выдатны раман М. Лынькова шаблоннасцю выкладу, безаблічнасцю разваг і назіранняў.

Я не закрэсліваю працы названых вышэй аўтараў, а толькі хачу звярнуць увагу на адну адмоўную тэндэнцыю.

Гаворка пра крытыку, пачатая на старонках «ЛіМа», мае важнае значэнне. Было б добра, калі б гэта гаворка была працягнута ў бібліятэках сярод чытачоў, у культасветустановах. Такая гаворка магла б адбыцца і ў бібліятэцы імя У. І. Леніна, на кафедрах беларускай мовы і літаратуры БДУ, педінстытута імя Горкага, у Інстытуце літаратуры АН БССР.

Хацелася спыніцца яшчэ на адным пытанні. Анацыраваныя картачкі на творы беларускіх аўтараў, якія выдаюцца бібліятэкай імя Леніна, на сённяшні дзень не задавальняюць запатрабаванняў бібліятэкараў. Пажадана, каб да іх складання прыцягваліся пісьменнікі, крытыкі, якія маглі б даць аб'ектыўную ацэнку той ці іншай выдадзенай кнізе.

**Л. ФРЫД,**
загадчык бібліятэкі № 11 г. Мінска.

---

*НОВЫЯ НАЗВЫ НА АФІШАХ*



**Дзяржаўны тэатр музычнай камедыі БССР пазнаёміў гледачоў з аперэтай Кальмана «Баядэра». Рэжысёр-пастаноўшчык спектакля — заслужаны артыст БССР В. Шаўкалюк, дырыжор — Э. Арашкевіч, балетмайстар — Л. Травінін, хармайстры — Н. Андросава і Г. Палянкова, мастацкае афармленне І. Чумакова.**

**На здымку — сцэна са спектакля «Баядэра». У ролі Адэты — артыстка Н. Гайда, Раджамі — артыст Ю. Летаў.**

Фота Ул. КРУКА.

ПАЭТЫЧНАЯ ПАВЕРКА



Аляксей

ПЫСІН

Спіць зямля. Заснулі ў полі
Цені змроку і святла.
Не былі, відаць, ніколі
Вы ля гэтага сяла.

Хтось праехаў, хтось
прамчаўся,
Бачны дрэвам і платам.
Хто сышоў і хто пачаўся,—
Невядома мне і вам.

Не трывожуся бязмерна,
Што сустрэнуся з зямлёй,
Возьме нас зямля і верне
Тым, што сёння сніцца ёй.

●

Светла так на могілках і суха,
А над сном матулі асака.
Падступіла асака-разуха
Да насыпанага астраўка.

Ці сама ты, маці, мне казала,
Ці паслухаў думкі я свае:
Лета ўсё трава цябе чакала,
Ты касіла восенню яе.

Паглядзела б—сонца
засталося,
Засталіся неба і зямля,
Промняў і калоссяў сугалоссе
І трава цярплівая твая.

Толькі рэчанька даўно
не льецца,
Можа рэчка з ціхаю вадой
У зямлю сышла у тое лета—
За табою, маці, за табой.

І сама ты, родная, не льешся
Да мяне ўсёй добрай глыбінёй
Праз любое доўгае Палессе,
Праз любую далеч, што
са мной.

Апускаю сумныя павекі
Над табой, нябачная рака.
Пасадзіў бы хоць цяпер
я кветкі,
Ды твая, твая тут асака.

●

Зусім не бедныя, зусім
не ўпотай
Да стойбішчаў грыбных
шыбуем
У бруднай вопратцы, стаптаных
ботах,
Якія выкінуць шкадуем.

А што, калі б бярозы апранулі
Зжаўцелае былое лісце,
І птушкі ўбор зліналы свой
вярнулі—
Пярынкі, ўпаўшыя калісьці?..

Не! Лес такім, як ёсць,
застацца хоча
У жывым лістку, ў сухім
палене;
І раздае сябе амаль святочна
І прагнасці і захапленню.

●

Старажытная каплічка.
Гарадзішча над ракой.
Ледзь прыкметная крынічка,
Што ўзялася асакой.
Не, не спадчына сівая
І не ўцэнены тавар,—
Мне радзіма адкрывае
У дарагіх
радзімках
твар.

●

Пасля дажджу шумяць яшчэ
нябёсы,
Яшчэ ў паветры пругкі цень
вады.
Спяшаецца па лужах хлопчык
босы,
Вяснушкамі абліты, залаты.

# НАВАЛЬНІЦА

Сцяпан

КУХАРАЎ



АПАВЯДАННЕ

*Пра Мацярок можна расказваць бясконца...*

*М. Горкі.*

**1.**

Праз Бацькавічы прайшлі абозы — наладаваныя коўдрамі і падушкамі фуры, запрэжаныя коньмі і нават каровамі — назад, у райцэнтр, вярталіся бежанцы — местачковыя шаўцы, рамізнікі, служачыя, прапыленыя, учарнелыя.

Наша хата стаяла пры саменькай дарозе. За глухой сцяною калодзеж з вышмараваным жураўлём і зялёным унутры цабэркам, акутым накрыж жалезам, каб коней не паілі нагбом, а з камягі. У нас больш, як у каго з суседзяў, спыняліся пастаяльцы. Адна фура тады завярнула проста на наш двор.

Маці выйшла з хаты і, уражаная, пляснула ў далоні: гэта былі нашы даўнія знаёмыя з мястэчка — стары Мордух Руцін, яго жонка Фрэйда і хлопчык, мордухаў унучак Лёва. Яго мы добра ведалі, бо як ездзілі з бацькам на кірмаш у Маластоўку, некалі закінутае ў глыбі Васіліцкіх лясоў мястэчка, то заўсёды спыняліся ў Руціных, і стары каваль заўсёды хваліўся сваім унучкам, вельмі дасціпным шчабятуном.

— Чуеш, Іван, — звычайна пачынаў стары, гладзячы шурпатай далоняй рыжыя кудзеры хлопчыка, які круціўся ля дзеда. — Во, бачыш, ета ж сынок майго Боры. Жаніўся ён, не пытаючыся ў бацькі. Адправіў яго ў Гомель, каб вучыўся, а ён, бачыш, ажаніўся там. Бачыш, Іване, і во прывезлі. Гадуй, дзед, радуйся...

— Сціхні ты ўжо, стары,—падае голас з бакоўкі бабуля Фрэйда.—Не было б горшай бяды. Яны — маладыя, няхай жывуць, а нам во ўцеха, на старыя гады радасць...

Мы сябравалі з Лёвачкам. Ён быў такі блакітнавокі прыгажун, гаваркі і ласкавы, што яго нельга было не палюбіць. Мы заўсёды падвозілі яго аж да канца мястэчка, і Лёвачка на развітанне махаў ручкай так, як вучыў яго дзядуля: «Лёва, зрабі для дзядзі во так ручкаю!..»

Вярталіся да свайго гнязда бежанцы, і на сэрцы як бы палягчэла. Руціны прывезлі яшчэ такую навіну: «Немцаў пагналі ад Сожа назад». Стары каваль трымае кубак з малаком, рука яго калоціцца, малако пырскае на стол, а ён усё бядуе: «Ай, ёй, што гэта будзе...»

— Маўчы ўжо, стары, — умешваецца бабуля Фрэйда. — Мы, лічы, ужо дома, а дзе цяпер нашы Бора і Наташа?..

Чым жа вінаватыя гэтыя старыя, спрацаваныя людзі? Чаму яны вымушаны ўцякаць са свайго жытла? Усё сваё жыццё яны адно што працавалі і працавалі, каб як-небудзь звесці канцы з канцамі, пракарміць вялікую сям'ю. Памятаю, калі мы, бывала, прыедзем да Руціных, то бабуля Фрэйда, частуючы нас, жартавала: «Дрэнная я буду гаспадыня, калі не накармлю ўсю сям'ю адным селядцом».

Руціны нас як бы падвесялілі крыху. Усе гэтыя дні ў нас з маці была гаворка: я настойваю эвакуіравацца ці пайсці з якой-небудзь вайсковай часцю, а маці заладзіла сваё: «Куды ж ты, дзівак, паедзеш? У цябе ж яшчэ як мае быць швы ад той аперацыі не загаіліся, што ты будзеш есці ў дарозе, табе ж нельга сухма. Акалееш дзе-небудзь, згінеш, як муха...»

Я, вядома, слухаў, што маці казала, а тым часам з камсамольскім сакратаром Сцяпанам Говарам цішком рыхтаваўся да выезду. Цяпер жа нашы планы зблыталіся.

Адпачыўшы і падсілкаваўшыся, госці адправіліся дадому. Мне шкада было развітвацца з імі, асабліва з Лёвачкам, які ўжо быў ладны хлопчык, амаль што школьнік, рослы, выцягнуўся, усё ж такі кучаравы, гарэза.

— Прыедзеш да нас, Лёва? — спытаў я ў Лёвачкі, калі ён ужо ўсеўся на возе поруч з дзедам. — Ужо яблыкі спеюць. Будзем разам у садку гуляць...

— Добра, прыеду, — неяк сумна прамовіў Лёвачка. — Вайны не будзе, і прыеду...

Доўга я стаяў на пыльнай дарозе, збоч якой, бы волаты-вартавыя, гойдалі веццем старыя цярынінскія бярозы. Стаяў, пакуль фура Руціных не знікла за пагоркам.

Было ціха-ціха. Па небе спакойна плылі белыя кучаравыя аблокі. У вершалінах прыдарожных дрэў не чутно было ніякага шуму. Не верылася, што недзе недалёка, за Сожам, ужо грымелі выбухі, рваліся снарады; смерць касіла людзей — кроўю і слязьмі аблівалася зямля.

Раптоўна адтуль, дзе толькі што схавалася фура Руціных, пачулася скрыгаслівае гудзенне— бы нехта надрыўна зароў у кулак ці закугакала надвячоркам сава, а потым неба як бы раскалолася на дзве палавіны; над шляхам асляпляльна бліснула полымя; падалося, бы здрыгануліся, падскочылі знянацку бярозы, як нехта вялікай дошкай ляснуў ля вуха. Адзін за другім два выбухі прагрымелі за пагоркам, і зноў усё аціхла. Было адно чуваць, як у сухім ад спёкі небе надрыўна і млосна загуў чужы, з чорнымі крыжамі самалёт. Мы ўжо ведалі, што гэта фашысты. Мусіць, з самалёта скінулі бомбы недзе на дарозе.

Ачомаўшыся, я падумаў, што там жа недзе і фура Руціных. Падумалася, што, відаць, больш за ўсіх будзе боязна Лёвачку, ён жа яшчэ амаль што дзіця.

**2.**

Увечары нехта асцярожна пастукаў у шыбу. Маці прыпала тварам да акна: хто б мог стукацца, бо суседзі, калі хто заходзіў, ведалі, дзе зашчапка, і без аніякага стуку адчынялі хату.

Стук нясмела паўтарыўся, і маці выйшла ў сенцы.

— Хто там? У нас не зашчэплена!...

— Адчыніце, гэта я, Лёва, — пачулася ў цемры.

Маці адчыніла дзверы і ўзяла за руку хлопчыка — гэта быў Лёвачка Руціных, увесь перапэцканы, у адной маечцы і ў кароценькіх штоніках са шлейкай. На адной назе ў яго быў сандалік, а другая босая, падрапаная аб нешта вострае — з яе сачылася кроў. Хлопчык калаціўся і ўздрыгваў, як ліст, прыціскаючы запэцканыя кулачкі да вачэй. Відаць, ён вельмі наплакаўся, і ў вялікіх блакітных вачах стаяла жудасць; твар час-ад-часу балюча перасмыкаўся.

Лёвачка крыху супакоіўся, і мы пачалі ў яго распытваць, што здарылася. Ён вельмі блытана і са слязамі расказаў, што нешта над іх падводай бліснула і яго як бы нехта балюча штурхнуў; ён ачнуўся далёка ад дарогі ў жыце. Калі падняўся, то ўбачыў раскіданыя вакол рэчы, бабуля ляжала далей — уся ў крыві, забітая, а падводы і дзеда не было. Доўга ён шукаў сандалік, а тады, убачыўшы, што цямнее, кінуўся па дарозе ў вёску.

— Я вельмі баюся, цёця Уліта, — зарумзаў хлопчык. — Дзе мая бабуля?.. Навошта яе забілі? Дзе мой дзед?..

— Нічога, Лёва, не бойся, не плач, — супакойвала яго, як магла, маці. — Ранічкаю мы пойдзем з табою, знойдзем дзеда, не плач, дзіцятка маё...

Назаўтра ж шляхам і агародамі адступалі на ўсход нашы. Байцы, змардаваныя і змучаныя ад спёкі і голаду, брылі і брылі ўвесь дзень — і з вінтоўкамі і проста так, з кацялкамі ў руках ці пры поясе, у пілотках і з непакрытымі галовамі.

Сяды-тады на двор забягаў хто з салдат і перасмяглымі вуснамі вымаўляў адно слова: «Піць». У вёдрах ужо даўно было суха. Усё — і ваду і малако — мы даўно аддалі такім жа чырвонаармейцам, якія ўжо заходзілі; цяпер можна было прапанаваць толькі яблыкі, яшчэ зялёныя, нясмачныя, ад іх толькі рот зводзіла...

Вакол студні тоўпіліся салдаты, роспачна грымелі кацялкамі, чэрпалі цабэркам пясчаную кашу — вада не паспявала прыбываць. Такое было ўпершыню, каб за якую гадзіну вычарпалі ўвесь калодзеж, а ў ім жа вады было сажні на два...

Усю ноч і яшчэ ўвесь дзень праз Бацькавічы ішлі чырвонаармейцы. Пра тое, каб адправіць Лёвачку ў мястэчка, нечага было і думаць, — трэба было яго неяк супакоіць, пакуль аціхне крыху.

Нечакана стала ціха. Як бы ўсё вымерла. Прайшла пагалоска, што, мусіць, сёння будуць немцы. Што рабіць? Маці ўсё кідалася то на гарод, дзе на ўсякі выпадак быў выкапаны акопчык, то забягала ў хату, нейкая як сама не свая.

Лёвачка крыху пасумаваў, павохкаў, а потым супакоіўся, відаць, адчуў, што трывогай ахоплены ўсе, і ён не прасіўся, каб яго адвезлі дадому, да дзеда. Ён цяпер ад мяне не адставаў ні на крок.

Яшчэ ледзь забялеўся ўсход, як мы з Говарам пагналі ў поле каровы, бо інакшага выхаду не было; бежанцы, якія ехалі назад, сказалі, што ўжо за Горкамі бачылі, як праехалі нямецкія матацыклісты. Калі ўвечары мы вярнуліся, перапалоханыя і разгубленыя са статкам, то пачулі, што ўжо нашы Бацькавічы — пад немцам.

Невядома, што тады было на душы ў маці, але яна была зноў жа, як падалося, зусім спакойная. Як заўсёды, на золку даіла карову, працэджвала малако, налівала нам сырадою, моўчкі ставіла гарлачыкі ў суднік і пачынала паліць у печы, а нам з Лёвачкам наказвала:

— Хлопчыкі, схадзіце ў лес, нарвіце бярэмца травы для Чарнаўкі...

Вярталіся мы з лесу неўзабаве і было вельмі балюча на душы. Маці падавала нам абед, расказвала вясковыя навіны і прыдумвала для нас новы занятак.

Мінула яшчэ колькі дзён. Неяк увечары ў шыбу пачуўся асцярожны стук — гэта прыйшоў стары каваль. Хто ж яму сказаў, што Лёвачка ў нас? А, мажліва, ён прыйшоў так, падзяліцца сваім горам...

— Ой,-ёй-ёй, што робіцца, Уліта! — загаварыў стары, атрасаючы пыл з ватоўкі. — Пахаваў я сваю Фрэйду, забітая яна ляжала, от прыкапаў трохі...

Стары няўцямна паглядзеў навокал. і вочы яго, яшчэ нядаўна такія зыркія і вясёлыя, здаецца, патухлі. Чалавека нічога не весяліла, нават тое, што ля яго каленяў цёрся яго ўнучак, пра якога ён не адразу і спытаўся. Маркотлівы і разгублены, стары шурпатай далоняй гладзіў па галоўцы Лёвачку і ўсё ўздыхаў, перабіраючы яго цёплыя кудзеры.

— Ой, Уліта, нічога ты не ведаеш, галубка!..

Пераначаваўшы, стары каваль сабраў унука, і, як маці не адгаворвала, ранічкай, узяўшы з сабой невялічкі клуначак, што яна яму напакавала, накіраваўся ў дарогу. Развітваючыся, яшчэ раз расказаў пра тое, як самалёт кінуў на іх бомбу, як асколкі сыпанулі па конях, як яны рванулі з месца, колькі было сілы...

Стары развітаўся з намі вельмі шчыра, нават усміхнуўся, прыгарнуў унука да грудзей і, як бывала некалі каля сваёй хаты ў Маластоўцы, калі мы з бацькам заязджалі да Руціных, прамовіў: «Лёва, зрабі на развітанне ручкай...»

Не скажам мы яму, чым
аплацілі
Вось гэты лівень і вось гэты
гром,
Нявінныя дзіцячыя плаціны,
Бязгрэшную вясёлку
над Дняпром.

●

Паравоз гукае на світанні,
З гуку нітку доўгую прадзе.
Можа нечаканае спатканне
Да мяне здалёку ён вядзе.

Дзякую, нязбочная дарога,
І даруй мне нейкую віну.
Вось сустрэну сябра дарагога,
У ім усіх, хто ў свеце, абніму.

Радасць блізка так была
і знікла,
Як бясшумны ранішні экспрэс.
Абарвалася тугая нітка,
Мусіць, зачапілася за лес.

●

На лавачцы сядзяць з вясны
Бабулечкі, як на вакзале.
Даўно сабралі ўсё ў вузлы,
Сабралі ўсё і ўсё звязалі.

Пара суцішная пакуль,
І не сягоння развітанне.
А мы пад позіркам бабуль,
У паласе іхназірання.

І кроку нейчага дэбют,
І чым жывеце, што нясеце
Па гэтым дворыку і свеце,—
Заўважаць і прыкмецяць тут.

І хісткі і няўдалы крок
Сваім засведчаць пасяджэннем.
Ды хто калі пачуў папрок,
Адно хоць слова асуджэння!

Бабулечкі—глядзіць само
Сумленне чысцінёю зроку,—
Не ведаем, што бачыць збоку;
Што думае пра нас яно.

# ПАДАРОЖЖА ЦЫМБАЛАЎ

З вялікім поспехам выступаў у час нядаўніх гастроляў на Украіне і Малдавіі Беларускі дзяржаўны аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам народнага артыста СССР Іосіфа Жыновіча.

Сёння ён зноў у дарозе. Больш трыццаці канцэртаў дадуць беларускія музыканты для машынабудаўнікоў Свярдлоўска і Іжэўска, нафтавікоў Цюмені і металургаў Чэлябінска, энергетыкаў Краснаярскай і Брацкай гідраэлектрастанцый, жыхароў Барнаула, Іркуцка, Омска і іншых гарадоў Урала і Сібіры. Пад новы 1972 год беларускія цымбалы будуць гучаць у канцэртных залах сталіцы Бурацкай АССР—Улан-Удэ.

У рэпертуары аркестра творы беларускіх, рускіх, украінскіх, малдаўскіх кампазітараў, музыка іншых братніх народаў нашай краіны. Разам з аркестрам выступаюць народны артыст рэспублікі Зіновій Бабій і цымбаліст, заслужаны артыст БССР Веніямін Бурковіч.

Аркестр атрымаў таксама запрашэнне выехаць на гастролі ў рэспублікі Закаўказзя і Сярэдняй Азіі. Гэтыя канцэрты адбудуцца тут вясной будучага года.

**Ул. ВАЛОДЗІН.**




**ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»**

**С. Аляксееў.** Сакрэтная просьба. Апавяданні пра Уладзіміра Ільіча Леніна. Пераклад С. Міхальчука. Малюнкі В. Бароўкі. 1971 г. Тыраж 16000 экз. 64 стар. Цана 21 кап.

**Спірыдон Вангелі.** Прыгоды Гугуцэ. Пераклад з малдаўскай мовы А. Марціновіча. Мастакі В. Стасевіч, В. Цярэнчанка. 1971 г. Тыраж 35000 экз. 46 стар. Цана 30 кап.

**Васіль Вітка.** Беларуская калыханка. Паэма. Мастак Г. Паплаўскі. 1971 г. Тыраж 25000 экз. 40 стар. Цана 11 кап.

**Анна Лупан.** Трэція пеўні. Раман. Пераклад з малдаўскай мовы М. Татура. Мастак В. Тарасаў. 1971 г. Тыраж 8000 экз. 272 стар. Цана 59 кап.

**Эрнест Ялугін.** Мсціслаўцаў кій, або старонкі жыцця зарубежнага горада Мсціслаўля, тамашняга люду паспалітага і отрака, імем Пятрок, якому наканавана ў друкарскай справе знатным майстрам стаць і тым горад свой паміж іншымі праславіць. Мастак Л. Дубар. На рускай мове. 1971 г. Тыраж 100000 экз. 100 стар. Цана 40 кап.

# БЫЛА АПОЎДНІ

**3.**

У вёску даходзілі жудасныя чуткі. Спачатку ў яўрэяў-местачкоўцаў адабралі маёмасць, хатнія рэчы, затым сагналі іх у адно месца і пад канвоем ганялі на работу. Адзін наш селянін ездзіў у мястэчка і сказаў, што бачыў старога Мордуха ля сталоўкі, ён упары з вядомым у раёне зубным урачом Ваксманам пілаваў дровы. Ля іх паходжваў паліцэйскі. Той наш селянін падышоў да іх. Пагаварыўшы з паліцэйскім, ён перакінуўся словам і з кавалём.

— Перадай, братка, там Уліце, — шапнуў ён і адышоў, змахнуўшы слязу.

Маці вельмі балюча перажывала ўсё, моўчкі цяжка ўздыхала. Перад вачыма стаяў Лёвачка. Яго ласкавыя сінія вочкі, звонкі, бы званочак, галасок, бесклапотная дзіцячая ўсмешка, тужлівыя ўздыхі, калі ён успамінаў пра бабулю...

— Каб як можна было яго выратаваць, — загаварыў я, занепакоены, як і маці, лёсам гэтага хлопчыка, што быў нам амаль што родным. — Можа, я пайду і як-небудзь паспрабую вывесці Лёву адтуль, з Маластоўкі?

— А як хто даведаецца, што мы хаваем яго ў доме, тады і нам бяды не мінуць...

— Адвязём яго ў Селішча, да цёткі Вары. Там зацішна, а людзям яна скажа, што ўзяла сабе хлопчыка з Ухініч, з дзіцячага дома...

— А то і праўда, — ажывілася маці. — Калі ж што якое, то можна не прызнавацца, сказаць, што прыёмны і ўсё.

— Дык я пайду, мама.

— Што ты, дзівак, — цвёрда, як нешта ўжо вырашанае, сказала маці. — Калі ўжо ісці, то толькі мне!

На ўсякі выпадак маці загарнула ў хустачку кавалак сала, адабрала большых яек, адрэзала добрую скібу хлеба і ўсё паклала ў кошык. На досвітку адправілася ў дарогу. Праз якія чатыры гадзіны была ўжо ля Маластоўкі. Яе ніхто не спыніў. Вуліцы былі пустэльныя. Рэдка дзе корпалася ў гародзе кабета, ці прасунецца паўз хаты да студні адзінокі чалавек. Вокны ў многіх дамах зачынены на стаўні, сям-там зеўралі павыбіваныя шыбы...

Вось і знаёмая драўляная будыніна — местачковая сталоўка. На двары штабялямі ляжаць дровы, сіратліва стаіць бочка-вадавозка на двух колах, на доле нацярушана пілавіння...

Праз некаторы час маці ўбачыла, як сюды прайшлі двое — згорблены стары каваль у сваёй паношанай і ўжо залапленай бравэрцы і другі, незнаёмы ёй, зарослы чорнай шчэцню мужчына сярэдніх гадоў. З імі клыпаў даўгалыгі Мікіта Канавал, колішні сусед, калі маці яшчэ дзеўкавала ў Перасадах.

Яна асцярожна акліknула старога. Той азірнуўся, прывітаўся вачамі і паказаў на паліцэйскага: маўляў, у яго трэба спытаць дазволу на тое, каб пагаварыць. Нічога не заставалася, як прасіць гэтага боўдзілу.

— Дык ты ўжо, Мікіта, заганарыўся, атрымаўшы такую высокую пасаду, — не без іроніі пачала маці. — Можа, здароў ці што?

— А як бы там думала? — у сваю чаргу зафанабэрыўся Мікіта. — Мінулася ваша ўласць— боханы белага хлеба з крамы насіць. Жылі, як на вялікдзень, а цяпер, ваша дышла, пажывем, пакаштуем белага хлеба і мы, — і адвярнуўся, падцягваючы велікаватыя галіфэ.

— Ты ўжо, Мікіта Восіпавіч, як колішні сусед, не крыўдуй, — падладжвалася на вясёлы тон маці і паказала на кошык: — Тутака во гасцінец, я, разумееш, па-зямляцку... А мне адпусці на хвілінку етага во старога, у яго, кажуць, ёсць чыгункі, трэба згаварыцца, бо няма ў чым бульбы зварыць...

Мікіта пакасавурыўся на кошык, азірнуўся вакол, патупаў на месцы, відаць, разважаючы, што рабіць з гэтай языкастай кабетай. Усё ж былая суседка, разнясе, быдта Мікіта ўжо такі злоснік, што да яго і не надступішся.

— Ну, ідзі, стары хрэн, ды хутчэй, жыва каб мне назад! — кіўнуў паліцэйскі і ўзяў з рук маці кошык.

Стары каваль адразу здагадаўся, з якой нагоды прыйшла Уліта: яна сказала пра ўсё вачамі. Па дарозе ўдакладніла свой план, ціха шапнула:

— Няхай хлопчык прыбяжыць у канец, пад Тур'ю. Да канцавой хаты ў вішанніку...

— Добра, Улітачка, галубка, пастараюся!

Маці падалася сцежкаю на тур'еўскі шлях. Сэрца калацілася — было цяжка дыхаць. Яна развязала хустку, аддыхалася. Шчыравала гарачае жнівеньскае сонца. Прыпарвала. Раптам пад нагамі замітусіліся трэскі, падхапіла ветрам лісце; злёгку закружылася ў паветры смецце, пажоўклыя паперкі. Зашасцела вецце на ліпках, пасыпаліся, ацярушваючыся, жаўтлявыя лісты долу. Недалёка правуркатаў глухі гром, але дажджу не было — адно пырснула некалькі кропель.

Выбраўшы месца ў вішанніку, маці прысела на пажухлую, прыпыленую траву і пачала прыслухоўвацца. Марудна цягнуліся хвіліны. Не зусім спадзявалася яна, што Лёвачка прыйдзе, бо не так лёгка было цяпер выбрацца з мястэчка. Але не прайшло і паўгадзіны, як Лёвачка з'явіўся, задыханы і нейкі трохі разгублены. Мабыць, яму сказалі, што тут яго будзе чакаць цётка Уліта, а цяпер ён убачыў, што яе няма, і гатоў быў расплакацца. Ва ўсякім разе так падалося маці, і яна, не марудзячы, выйшла насустрач:

— Лёва, дзіцятка маё, ідзі, не бойся!

Лёвачка, як бы прасветлены наскрозь радасцю, ірвануўся да яе, зашчабятаў весела:

— Цёця, а мне дзядуля сказаў, што я з вамі пайду. Цяпер я з вашым Шурам буду гуляць. Добра, цётка Уліта?

— Добра, мой хлопчык. Пойдзем сынок.

Азіраючыся раз-пораз на зялёнае, заценёнае нізкімі хмарамі мястэчка, маці барзджэй пакрочыла на ўсход, трымаючы за руку хлопчыка, які ледзь паспяваў за ёй і ўсё гаварыў і гаварыў, бы шчабятун які:

— Цётка Уліта, чаму гэта вы ўсё азіраецеся? Дзядуля сказаў, што прыйдзе да мяне, як перастане навальніца, як вернецца з Гомеля мая мама...

Пад вечар яны ўдала дабраліся да Бацькавіч, і Лёвачка застаўся ў нас. Праўда, мы яго стараліся не пускаць далёка ад дому, ды ён і сам не надта кідаўся туды, бо быў кемлівы хлопчык. Мы з ім блізка пасябравалі і ўвесь час праводзілі то ў лесе, які быў недалёка, то ў садку, забаўляліся пад паветкай, дзе была бацькава стальмашня.

Маці вельмі чуйна прыслухоўвалася да ўсяго, бо ўжо ў вёсцы пачалі ўводзіць «новы парадак». У Ігліцы стала воласць і новае начальства—стараста, пісар і паліцэйскія. У Бацькавічы ўжо часта наязджаў Бугай — валасны бургамістр, як ён сябе называў, і агітаваў некаторых, каб пісаліся ў паліцыю—бараніць будучыя свае надзелы ад бальшавікоў. З яго ўсе ў думках пасмейваліся, а на яго запрашэнні аднекваліся: «Пан бургамістр, якія з нас паліцаі, глядзіце: адзін без нагі, другі без вока, а трэці глухі, як цецярук...» Бугай рагатаў і спяшаўся на хутар, да Варывона Крука, якога прызначыў за старасту.

Неяк ля калодзежа маці набірала ваду, і Бугай спыніўся, пахваляючыся сваім рыжым жарабком, што гарцаваў пад ім. Угледзеўшы яе, ён з'едліва прамовіў:

— Навоіха, кажуць, у цябе жыве нейкае хлапчанё. Не яўрэйскае ета? Глядзі, бо за ета ведаеш — вешалка!..

— Што ты, пан бургомістр, гэта ж хлопчык маёй сястры з Пакроўкі, — зусім спакойна сказала маці і пакрыўджана дадала: — Война людзі! Глядзі ты, ужо і навыдумлялі чорт ведама што... Война людзі!..

— То я ведаю, Навоіха, што ты паняла.

— Так, пан бургомістр, зразумела.

У той жа дзень маці з Лёвачкам гародамі, праз канапляннічы, шыбанула на дуброўскую дарогу ў Селішча, дзе жыла цётка Вара. На тым хутары было ўсяго два ці тры двары і людзі там жылі, як свае, як радня. А мо яны і даводзіліся адно аднаму раднёю. Сюды, мабыць, яшчэ ні разу не наведваліся паліцаі.

Цётка Вара ахвотна згадзілася ўзяць да сябе хлопчыка — Лёвачка, вядома ж, не хацеў заставацца, але маці яго ўгаварыла, а, можа, ён і сам ужо здагадаўся, што яму ў нас жыць не можна было. На хутары хлопчык прабыў усю восень і зіму.

Вясною партызаны ўсё часцей пачалі наведвацца на хутар. А затым і зусім атабарыліся побач, на выкарчы, акружанай балотам. Нехта дазнаўся, што ў Вары Цярэшкі жыве хлопчык з мястэчка. І праз нейкі час у Селішча завітала ў вайсковай форме маладая жанчына, доўга глядзела на Лёвачку, а потым са слязьмі на вачах сказала гаспадыні: «Дзякуй вам, дарагая Вара Ціханаўна, вы мне выратавалі сына. Я праз увесь век не забуду. Яшчэ раз дзякую».

Яна забрала з сабою хлопчыка.

А стары каваль загінуў у той дзень, апоўдні, як над мястэчкам усходалася нечаканая навальніца. Яго застрэліў немец, нібы з тае прычыны, што стары спрабаваў уцячы.

●

Гэтая даўняя гісторыя ўжо, мабыць, забылася ў Бацькавічах, бо за час акупацыі было шмат усялякіх незвычайных здарэнняў. Людзям давялося перажыць шмат гора і пакут, і гэты эпізод у жыцці Уліты Навоіхі быў звычайным, і яна сама пра яго не спамінае.

Ды аднойчы, праз многа гадоў, зноў жа апоўдні, у гарачы жнівеньскі дзень, ля замшэлай Уліцінай хаты спынілася заляпаная гразёю «Волга» — надоечы джагаў навальнічны, сляпы дождж. З машыны выйшаў высокі, стройны у залацістай шапцы валасоў хлапчына, запытаў у басаногіх хлапчукоў, якія ўжо, нібы авадні, абляпілі машыну:

— Не ведаеце, дзе жыве цётка Уліта?

— А во, хата пад дранкаю, — паказаў адзін з басаногай каманды. — Толькі тут жыве не цётка, а бабуля Уліта.

— Ну, бабуля дык бабуля, — збянтэжыўся хлапчына і насцеж расчыніў дзверцы машыны:

— Мама, Бася, выходзьце, тут.

Старая, убачыўшы, што ля хаты спынілася машына, заспяшалася насустрач і ўсё ўзіралася сваімі блізарукімі вачамі, ніяк не могучы ўцяміць, хто б гэта мог быць: каб госці — сын яе, дык ён старэйшы куды; унукі, дык яны меншыя і нявестка яе не такая поўная... А рыжачубы ўсміхаўся ёй і ўжо раскідваў рукі для абдымкаў:

— Добры дзень, цётка Уліта! Добры дзень, маці!

— Здрастуй, здрастуй, сынок, — прамовіла бабуля. — Хто ж ты такі, я нешта не пазнаю?

Яна разгублена глядзела то на хлопца, то на жанчын — маладую і пажылую, што ціха і цёпла ўсміхаліся ёй.

— Чакайце, — прасвятлела і як бы нешта прыгадала старая: — Ці не Лёва ета?

— Ён самы, маці.

— То ж бо я гляджу, — замітусілася старая. — На дзеда падобны трохі, на старога Мордку, — і ўздыхнула, а тады барзджэй загаманіла: — Дык што ж мы стаім? Заходзьце ў хату. Заходзьце, госцейкі...

...На захадзе, там, дзе ў мроіве клубіліся і гойдаліся, бы нейкія прывіды, гурбы хмар, чулася далёкая навальніца. Сюды даносілася толькі яе буркатлівае, прыглушанае далеччу, рэха.

Бралася на прыпар. Выспявала жнівеньская спёка.

«ВОПРОСЫ ЛИТЕРАТУРЫ»

# ШЛЯХ ДА ЧЫТАЧА

На маю думку, проза Кузьмы Чорнага даўно чакала такой рэкамендацыі, якую ёй дае ў артыкуле, надрукаваным ва ўсесаюзным часопісе «Вопросы литературы» (№ 10), Алесь Адамовіч. Чаму? Мабыць, наша павага да тых перакладчыкаў, якія перакладалі на рускую мову гэтую прозу, не зменшыцца, калі мы на ўвесь голас скажам, што і дагэтуль няма конгеніяльнага рускага тэксту К. Чорнага. Задача цяжкая, складаная — перадаць хараство і глыбіню яго прозы. Яна — наперадзе. Але і грунтоўнай даследчай работы, якая б доказна і пераканаўча раскрывала арыгінальнасць і духоўную моц Чорнага-мастака, таксама не было. Тыя артыкулы, дзе штосьці аглядальнае і апісальнае прымала выгляд даследавання, зробленага па загадзе захопленага празай сэрца (пра вершы, бывае, і лягчэй сказаць па такім загадзе!), мелі больш дэкларацыйны характар, характар панегірыкаў, якім хочацца верыць і не вельмі ж верыцца.

А. Адамовічу ў гэтым артыкуле верыш. Пастаўлены ў рэчышча станаўлення беларускай літаратуры, К. Чорны тут натуральна і справядліва ўзнімаецца як адна з самых велічных вяршынь. Даследчык паказвае чытачу, што мастацтва сапраўднага мастака-аналітыка нічога не траціць у сваёй «жывапіснасці». Мы разам з крытыкам пільна ўчытваемся ў твор, фактычна незавершаны, адкрываем нанава раман «Млечны шлях», пра які раней даследчыкі гаварылі мімаходзь. Між тым, тут — вось што азначае талент: яго пазнаеш нават па незавершанай задуме! — перакрыжаваліся многія тэмы, якія хвалявалі К. Чорнага раней і прабіваліся ў яго эпасе, нібы выбухі вулкана. Так званы просты чалавек, «чалавек з натоўпу», аказваецца, ніколі не бывае простым: раманіст дае нам выслухаць споведзь такіх фігур, і ў кожнай споведзі жыве дапытлівая думка па-грамадзянску неабыякавай натуры, духоўная праца адбываецца ў яго сэрцы, ён таксама, як і вялікія мысліцелі, пакутуе над адвечнымі праблемамі дабра і зла.

Гартаючы тамы чорнаўскай прозы з пункту гледжання гэтай даследчай думкі, А. Адамовіч смела набліжае Чорнага, знаўцу духоўных таямніц, да Дастаеўскага і пераканаўча паказвае, дзе беларускі асілак «падзяляў» светапогляд рускага генія і дзе горача (моваи мастацкіх вобразаў, лёсам герояў) спрачаўся з ім. Сказаўшы пра чыста літаратуразнаўчую паралель, мушу адразу ж папярэдзіць чытача, што А. Адамовіч «правярае» тэму свайго даследавання не кнігай, а жыццём. Ён дарэчы і стрымана, але нагадвае нам пра лёс мільёнаў людзей «у краі, дзе кожны чацвёрты загінуў у партызанскай атацы або ў полымі соцень Хатыняў». І гэты подых рэальнасці вельмі падмацоўваюць яго тэарэтычныя разважанні, пазбаўляючы таго прыкрага адцення панегірыка, пра які я пісаў на пачатку сваіх нататак.

Адна з зайздросных рысаў крытычнай пільнасці — уменне трапна цытаваць літаратурны тэкст. І тут А. Адамовіч дэманструе, па-першае, выдатнае веданне рамана «Млечны шлях» — па сказах, па абзацах (а некаторыя абзацы ў рамане больш за старонку), а па-другое, густ ў выкарыстанні для доказаў голасу Чорнага, голасу яго герояў. Не ведаю, ці гартаў А. Адамовіч якое-небудзь рускае выданне, ці сам перакладаў патрэбныя яму мясціны. Хутчэй за ўсё — сам! І паказаў, што яму, відаць, лепш за многіх іншых удалося б не «пераказаць» рускімі словамі беларускі арыгінал, а даць на самой справе мастацкі эквівалент яго.

Зразумела, нават самы грунтоўны артыкул пра раман — гэта толькі адна сёмая частка самога айсберга. Да поспеху разважанняў А. Адамовіча, яго цытацыі і раскрыцця псіхалагічных глыбіняў у вобразах рамана я адношу і тое, што рускага чытача павінен зацікавіць «Млечны шлях». Даследчык не адштурхоўвае нас ад кнігі, а, наадварот, узмацняе жаданне асабіста паглыбіцца ў прозу Чорнага. Ён сваім аналізам падказвае, што кніга абяцае нам і эстэтычнае задавальненне, і пашырэнне нашых чытацкіх даляглядаў. Мабыць, не адзін з нас, прачытаўшы напісанае А. Адамовічам, дастане з паліцы і разгарне старонкі «Млечнага шляху».

Дадайце да ўсяго гэтага той факт, што такі ўплыў крытык робіць на рускага і ўсесаюзнага чытача, і вам будзе зразумелы мой захоплены пафас, які я кірую аўтару змястоўнага і патрэбнага слова — слова пра подзвіг і веліч Кузьмы Чорнага.

**Барыс БУР'ЯН.**

КІНО

# ВЕРНАСЦЬ

ШМАТ гадоў вядзе рэжысёр Леў Голуб нялёгкую гутарку аб дзецях мовай кіно. «Дзеці партызана» (1954), «Міколка-паравоз» (1957), «Дзяўчынка шукае бацьку» (1959), «Вуліца малодшага сына» (1962), «Пушчык едзе ў Прагу» (1966), «Анюціна дарога» (1968), «Паланез Агінскага» (1971) — спіс, які, трэба спадзявацца, будзе прадоўжаны мастаком.

Адказная і складаная справа — расказваць аб дзецях і для дзяцей. Адказная таму, што патрабуе ад мастака асабліва дакладнага ўсведамлення задач (ідэйных, педагагічных, эстэтычных), складаная — бо вымагае асаблівай выразнасці і даходлівасці кінамовы. Выхаванне савецкага патрыятызму, цікаўнасці, смеласці і адвагі—так можна вызначыць праблематыку выбранага кінарэжысёрам кірунку творчасці.

Героі карцін Льва Голуба паступова набіралі сілу. У фільмах «Міколка-паравоз» і «Дзяўчынка шукае бацьку» выкрышталізаваліся адметныя рысы творчага почырку рэжысёра: уменне спалучаць займальнасць сюжэта з жыццёвай праўдзівасцю, шчырасцю і рамантычнай узнёсласцю вобразаў юных герояў. Рэжысёр паказаў, што ён умее размаўляць з моладдзю сур'ёзна і разам з тым на зразумелай для яе мове. Гутарка вялася на такім узроўні, што зацікавіла не толькі дзяцей, але і дарослых. І яшчэ адну якасць прадэманстраваў Л. Голуб як рэжысёр у гэтых фільмах — уменне трапна выбіраць юных акцёраў, працаваць з імі, дамагаючыся выразнасці вобразаў. Вова Гуськоў і Аня Камянкова былі сапраўдным рэжысёрскім адкрыццём, без якога не атрымаўся б і агульны плённы вынік.

Некаторае расчараванне прынёс фільм «Вуліца малодшага сына». Прыгодніцкія калізіі залішне захапілі рэжысёра ў стужцы «Пушчык едзе ў Прагу». А ў «Анюцінай дарозе» ён зноў выйшаў на свой магістральны шлях і змог праз лёс маленькай дзяўчынкі паказаць складаныя абставіны, у якіх ішла барацьба за новае жыццё. Маленькая Света Карасцеліна зноў была дзівоснай рэжысёрскай знаходкай. Яна трапна перадала разнастайныя псіхалагічныя адценні стану сваёй гераіні і выклікала шчырае спачуванне і захапленне перапоўненых кіназалаў. Крытыкі справядліва папракалі аўтара сцэнарыя К. Губарэвіча і рэжысёра Л. Голуба за перанасычанасць фільма «Анюціна дарога» неабавязковымі, а часам і знаёмымі па іншых кінатворах падрабязнасцямі эпохі грамадзянскай вайны. Але ніхто не адмаўляў агульнай значнасці кінатвора. І лаўрэатамі прэміі Ленінскага камсамола Беларусі аўтары сталі па праве.

І вось новы фільм драматурга К. Губарэвіча і рэжысёра Л. Голуба «Паланез Агінскага». Цікавасць да яго асаблівая, бо ён адзначаны такой пачэснай узнагародай, як «Чырвоны гваздзік», і дыпломам Міністэрства асветы СССР. Першае, што хочацца адзначыць, прагледзеўшы фільм «Паланез Агінскага», — рэжысёр застаўся верным свайму кірунку творчасці, свайму гледачу. У інтэрв'ю з карэспандэнтам пастаноўшчык сказаў, што яго новы фільм, як і ранейшыя, — «кінатвор аднаго акцёра». Сапраўды, скіраванасць на аднаго, галоўнага героя вызначыла і змест фільма. У цэнтры падзей — беларускі хлопчык Васілёк, якога жорсткія падзеі вайны прымусілі вандраваць па вёсках і шукаць прытулку. Фільм пачынаецца з эпізода, рэзка кантраснага таму, пра што потым пойдзе гаворка ў фільме. Мы бачым героя на канцэрце ў Палацы піянераў, дзе ён выступае з аркестрам. Васілёк — здольны музыкант, яго мара — услаўляць жыццё. Рэзкая змена кадраў — і скрыпка хлопчыка ператвараецца ў баявую зброю: іграючы савецкія песні, ён заклікае людзей на барацьбу з ворагам, дапамагае ім у гэтай барацьбе



Кадр з фільма «Паланез Агінскага».

Ролю Васілька рэжысёр даручыў вучню аднаго з ленінградскіх музычных школ Ілюшу Цукеру. Выбар трапны: хлопчык не толькі віртуозна валодае скрыпкай, ён вельмі эмацыянальны, чулы да псіхалагічнага стану свайго героя, шчыры ў перажываннях.

У першых эпізодах вайны няцяжка прыкмеціць недастатковую навізну мастацкіх рашэнняў — драматургічных і рэжысёрскіх, пэўную ілюстрацыйнасць. І ўсё ж ад эпізода да эпізода фільм набірае тэмп і пругкасць, расце эмацыянальны напал падзей. Гэта пачынаецца з моманту, калі Васілёк трапляе да партызан, а потым разам з Максімам (артыст Г. Юхцін) ідзе на заданне—узрываць мост. Па-сапраўднаму пачынаеш хвалявацца, калі сочыш, як Васілёк прабіраецца на станцыю і падкладае міну пад цыстэрну з палівам. Вострая драматургічная сітуацыя дазваляе юнаму акцёру і рэжысёру паказаць напружанасць атмасферы. Уся ўвага цяпер сканцэнтравана на перажываннях Васілька. Тут І. Цукер зусім не іграе ў героя, а сапраўды робіцца ім — на твары яго і страх, і рашучасць выканаць заданне. Ён увесь у тым дзівосным парыве, калі чалавек ведае, чаго ён хоча, калі канчатковы выбар ім зроблены.

Трывога за хлопчыка ўзрастае. Ён трапляе ў рукі вартавога, які вядзе яго да каменданта. А тут яшчэ вось-вось узарвецца састаў з палівам. Але тут аўтары фільма «цiснуць», як кажуць, на тармазы: выбух не закранае хлопчыка, ён уцякае ад вартавога і ратуецца ад немцаў у касцёле, дзе сустракаецца з Франакам. Эпізоды з арганістам Франакам сюжэтна, можа, і не вельмі арганічна ўведзены ў фільм (адчуваецца «адкрытасць ходу»), але артыст П. Паўлоўскі псіхалагічна апраўдвае прапанаваныя яму абставіны і «выратоўвае» эпізод. Ён паказаў артыстычнасць натуры свайго героя, які змагаўся за Васілька не толькі як за дзіця, але і як за талент. Сустрэліся два чалавекі, розныя па ўзросце, з розным жыццёвым вопытам, але зараз аб'яднаныя адзіным пачуццём гарачай любві да Радзімы. Абодва — музыканты. І таму ў паланез Агінскага «Развітанне з Радзімай», які яны выконваюць разам, укладзена столькі болю і смутку, што адразу зразумела, чаму так названы фільм. У лініі Франак — Васілёк неяк штучна гучыць фінал: раптоўная сустрэча герояў пасля вайны ўспрымаецца як звыклая сюжэтная «кропка».

Калі ўспамінаеш фільмы Голуба, міжволі думаеш, што ў іх звычайна неяк аблегчана (калі не сказаць спрошчана) паказваюцца дарослыя, асабліва ворагі. Гэтая ж заўвага датычыць і фільма «Паланез Агінскага». Таленавіты і вельмі праўдзівы артыст Г. Юхцін дае магчымасць адчуць глыбінную сутнасць характару партызана Максіма. Менавіта артыст робіць героя не надуманым, а жывым. Артысты Г. Гарбук і П. Кармунін (камандзір партызанскага атрада і начальнік штаба) паводзяць сябе натуральна, спрабуюць стварыць паўнакроўныя вобразы, але ў тых некалькіх сцэнах, якія ім адведзены, зрабіць гэта немагчыма. Ну, а ворагі — яны ў фільме толькі носьбіты зададзеных функцый. У характары іх драматург і рэжысёр асабліва не паглыбляюцца. Эстонскі артыст А. Эсхола спрабаваў з розных бакоў падысці да ролі каменданта Кунца — паказаць яго знешнюю лагоднасць і ўнутраную жорсткасць, але герой усё роўна застаецца схематычным.

Нельга не адзначыць яшчэ адну асаблівасць фільма — яго амаль дакументальную фактуру. І гэта невыпадкова. Здымаў яго аператар-дакументаліст Р. Масальскі. Шмат год ён працуе ў беларускім кіно, сотні сюжэтаў кінахронікі, дзесяткі кінанарысаў на яго творчым рахунку. Сярод іх і такія значныя, як «Арлiная крыніца», «Шчырая размова». Як дакументаліст ён умее і перадаць сутнасць фактаў, і абагульніць іх. «Паланез Агінскага» — яго першая работа ў мастацкім кіно. У ёй многае з арсеналу ранейшых выяўленчых сродкаў аператара. Яго камера ніколі не бывала нейтральнай да таго, што яна здымала. І на гэты раз яна хвалюецца за лёс Васілька, Максіма, задумлівая ў эпізодах партызанскага лагера, узбуджаная і ўстрывожаная тады, калі здымае партызанскія аперацыі і сцэны расправы акупантаў над патрыётамі. Адным словам, Р. Масальскі актыўна садзейнічаў поспеху фільма і даказаў, што ён можа здымаць як дакументальныя, так і ігравыя карціны.

У новым фільме асаблівае значэнне набывае музыка. Распрацоўкай мелодый савецкіх песень, паланеза Агінскага кампазітар Г. Вагнер стварае той лейтматыў, які на працягу ўсёй карціны нясе тэму Радзімы. Музыка дапамагае больш выразна падкрэсліць ідэйны змест фільма. Яна не адарвана ад вобразнага ладу твора і таму дзейсная.

Яшчэ рана прадказваць лёс новага фільма на экране — ён толькі выйшаў на шырокую аўдыторыю. Адно ясна, што аўтары яго засталіся верныя сваім творчым прынцыпам, сваім гледачам.

**Е. БОНДАРАВА.**



Гэты здымак зроблены ў Палацы культуры Магілёўскага завода штучнага валакна імя В. В. Куйбышава ў час сустрэчы народнага артыста СССР кінаакцёра Мікалая Кручкова з артыстамі народнага агіттэатра «Усмешка».

Фота А. Голыша.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ

Аўдзей САМАСЕЙ

## ВЫБРАНЫЯ ЦЫТАТЫ

МАСТАЦКАЯ ПРОЗА

### ЯК ТОЛЬКІ ПАТУХЛА СВЯТЛО...

Першае каханне... Калі яно было? Я не ведаю, таму што яно было не адно. А можа, проста я не разумею, што такое першае каханне?..

Можа гэта было каханне?..

Успамінаю Вольку Гаўрыльчык, беленькую дзяўчынку, дачку аднаго начальніка раённага маштаба. Мы вучыліся ў ШКМ — школе калгаснай моладзі (так тады называлася сямігодка), я — у сёмым класе, Волька — у шостым. Аднойчы ў нас хапіла адвагі згаварыцца ісці ў кіно. Білеты мы ўзялі кожны сабе, прыйшлі ў нардом, як тады звалі Дом культуры. Месцы ў нардоме не былі пранумараваны, садзіліся дзе хто хацеў. Я сеў на заднім радзе, прасачыў, куды прайшла Волька, і, як толькі патухла святло, хуценька шмыгнуў да яе. Не помню ўжо, якая ішла карціна, помню толькі, як нешта ўзнімалася ў мяне на душы, калі я датыкаўся плячом ці локцем да Волькі... Невядома, што было б паміж намі, але бацьку Волькі перавялі ў другі раён. Я вельмі доўга не мог забыць яе.

Успамінаецца Зося Лаўрукевіч. Я ведаў яе змалку, яна была старэйшая за мяне гады на два. Думаць пра яе я пачаў пасля адчаго выпадку. Было гэта на рэчцы Дакольцы... Пасля сямігодкі я амаль два гады працаваў у калгаснай канторы памочнікам рахункавода і часта наведваўся з вудай на Дакольку. І вось аднойчы іду берагам, выглядваючы добрую мясцінку, каб павудзіць. Абмінаю кусты ля старой вярбы і бачу на грудку голую дзяўчыну. Ад нечаканасці і сораму я схаваўся назад за кусты. Гэта была Зося. Яна стаяла на мяккай зялёнай траве і, мне здалося, трапятала ад павеваў цёплага летняга ветрыку. Неўзабаве яна ступіла ў ваду, заходзіла глыбей і глыбей; быццам у мроях, бачыў я, як вада абдымала і хавала яе стройныя ногі, яе тонкі стан, яе белыя грудзі... Ціхенька, каб мяне не заўважылі, я павярнуўся і пайшоў назад... І ўжо не хацелася вудзіць рыбу — у маіх вачах стаяла Зося... Аднойчы, праз некалькі дзён пасля таго, яна мне прынілася, і, прачнуўшыся, мне прыемна было перабіраць у памяці той сон...

Але недзе плыла Даколька, плыла ціха, няспынна, і некуды адплываў Зосін вобраз. Адплываў — і я зноў самотна думаў, што гэта адплывае маё першае каханне.

А потым...

А потым быў вялікі горад, былі захапленні і расчараванні, былі Галя Дайнека, Ірына Юзафовіч, Тоня Ластавец, Ванда Чахоўская. Мае таварышкі па вучобе ў педагагічным вучылішчы.

Іншы раз здавалася мне, што я кахаю аж некалькіх адначасова; і мне хацелася, каб усе яны таксама кахалі мяне...

**(Аркадзь МАРЦІНОВІЧ. «Панарама». Аповесці і апавяданні. Выдавецтва «Беларусь». Мінск, 1970, стар. 4—6).**

ТЭАТРАЛЬНАЯ КРЫТЫКА

### САМЫ МОЦНЫ БОК

Некаторым здавалася, што «вытворчы» бок адцясніць на другі план жыццё, лёс людзей і спектакль будзе нецікавым. (Стар. 60).

Яны паказалі яго аднабакова — толькі як «апартуніста». У Крапівы ён быў надзелены рознабаковымі чалавечымі рысамі. (Стар. 75).

Ён, як бык на чырвоны колер, гатовы ісці ў той бок, дзе пахне грашыма. (Стар. 82).

Яго пастаянна ліслівая ўсмешка, пачцівы нахіл усёй постаці ў бок «дабрачынца» Юсава, ялейныя галасавыя інтанацыі — усё гэта малявала партрэт нізасці, дваедушша і карыслівасці. (Стар. 139).

...Жаданне адысці ад аб'ектыўнага паказу ценевых бакоў жыцця, перавод складаных сацыяльных праблем у аблегчана-камедыйны план — усё гэта хвароба часу, якая кранула і тэатр... (Стар. 141).

Рэжысёр К. Саннікаў асноўную ўвагу звярнуў іменна на гэты бок п'есы, прычым пастараўся ўзмацніць характарыстыку ўмоў, якія непазбежна ўплывалі на свядомасць, псіхіку... (Стар. 149).

У сваіх спектаклях тэатр настойліва падкрэсліваў такі бок характару... чалавека, які асабліва поўна раскрываўся ў пасляваенныя гады... (Стар. 150).

Моцным бокам спектакля... былі характары калгаснікаў, якія, нягледзячы на працвітанне самасееўшчыны, не трацілі веры ў прыход іншых дзён. (Стар. 161).

І яшчэ адзін бок вобраза... у выкананні Малчанава — яго чалавечнасць. (Стар. 165).

П'еса «Каварства і любоў» Ф. Шылера прадстаўляе шырокія магчымасці сучаснаму тэатру паказаць не толькі жорсткае самаўпраўства феадальных дэспатаў, але і сілу чалавечага духу... у спектаклі... была зроблена спроба падкрэсліць іменна гэты бок п'есы. Каб спроба ўвянчалася істотным поспехам, трэба было пераканаць гледача ў надзвычай моцным каханні паміж Луізай і Фердынандам. Аднак акцёры... не да канца справіліся з гэтай задачай... (Стар. 168).

Асабліва добра акцёр вылучыў гэты бок характару, калі Сорын, пераадольваючы пачуццё сораму за Аркадзіну як маці, просіць, каб яна дала хоць крыху грошай свайму сыну. (Стар. 171).

Найбольш моцным бокам спектакля... з'явіўся лагер... патрыётаў. (Стар. 175).

Можа самы востры бок вобраза Пратасава ў спектаклі — у раскрыцці працэсу асэнсавання, паказання ім законаў, сутнасці грамадскага жыцця і як вынік — уход з гэтага жыцця. (Стар. 177).

Трэба дабівацца, каб кожнаму акцёру сапраўды было што стрымліваць, а не паказваць толькі стрыманасць або шляхам сціскання кулакоў, або ігрой губ, або проста бессэнсоўным маўчаннем. (Стар. 206).

**(Ул. Няфёд. «Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1970).**

ЛІТАРАТУРАЗНАЎСТВА

### ШУРПАТЫЯ РЫТМЫ

...Адлегласць паміж гэтымі двума вершамі — больш чым дзесяць гадоў, і таму прыкметны зрухі ў майстэрстве.

У першым вершы **рытм больш шурпаты**, радкі, можна сказаць, больш «няўклюдныя», але, тым не менш, чароўныя, у вершы «Спадчына» майстэрства рыфмоўкі незвычайнае... (Стар. 53).

У падобных вершах выступаюць **ясныя інтанацыі.** Тут дарэчы будзе адзначыць, што ў дарэвалюцыйных творах паэта заўважалася такая з'ява: для выяўлення пакут паэт будаваў свае творы ў **танальнасці змрочнай, у рытме цяжкім...** У савецкі перыяд выступілі **ясныя інтанацыі** ў творчасці Я. Купалы. І толькі пра мінулае ён піша ў той жа **змрочнай танальнасці. Гэтакія ж рытмы** мы маем у вершах паэта часоў вайны, калі ён паказваў пачварныя справы людаеда Гітлера. (Стар. 63—64).

Мы гаварылі вышэй, што пры маляванні мінулага Янка Купала ўжывае галоўным чынам **цяжкія рытмы** і **змрочныя фарбы,** а пры маляванні сучаснага будуе свае творы ў **танальнасці светлай, яснай.**

Гэта сцвярджэнне застаецца правільным у дачыненні пераважнай большасці вершаў паэта. Крыху больш складаную з'яву ўяўляюць творы, у якіх выражаны працэс ломкі старога, выспяванне новага. (Стар. 70).

З рытму верша «А хто там ідзе?» ідуць такія своеасаблівыя радкі Куляшова:

А чые гэта рэчы, чые,  
Гаспадыня Праскоўя?  
Хто насіў? Не спытаўся ў яе.  
Не спытаў пра сыноў я.

Вядома, гэта не ёсць пераймание, бо Куляшоў, выходзячы з купалаўскага матыву, беручы яго як адпраўны пункт, ідзе да сваіх уласных узораў. Але і тут выкарыстанне своеасаблівага **дэфармаванага рытму** Купалы не з'яўляецца для паэта фармалістычнай забавай. Мы ведаем, што верш «А хто там ідзе?» быў ацэнены Горкім як суровы гімн яшчэ пакутуючага, але паўстаўшага ўжо да барацьбы беларускага народа. І зусім натуральна, што, выходзячы з задачы стварэння паэмы аб пакутах і барацьбе беларускага народа пад прыгнётам фашыстаў, Куляшоў дарэчы выкарыстаў агульную танальнасць верша «А хто там ідзе?», своеасабліва дэфармаваўшы яе ў адпаведнасці з задачай паказу народа на зусім новым і вышэйшым этапе яго развіцця. (Стар. 299)

**(Алесь Кучар. «Аблічча часу». Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1971).**

Марцін КОЎЗКІ

## ФРАЗЫ

**Усё пачынаецца з дарогі, нават бездараж.**

□

**Чорныя плямы на сонцы ўсё яшчэ выдаюць за белыя.**

□

**Вока за вока, зуб за зуб — так, але... з вока на вока, з рук у рукі!**

□

**Таму, хто здымае вяршкі, не заўсёды дастаецца смятанка.**

□

**Кожны кулак мае свой указальны палец.**

□

**Атрымаў кампенсацыю: белымі начамі за чорныя дні.**

□

**Ці не ставім мы часам чалавека на ногі ўніз галавой!**

## ДЫЯЛОГІ

Андрэй ЛЕНКА

Размаўляюць дзве сяброўкі:

— За што ты яго пакахала?

— За тое, што яго любяць іншыя.

—А ты?

— Ды ён, кажуць, добры хлопец.

— Ну, а ты?

— А што я? Усе так кажуць.

●

— Дарагая, у цябе столькі новых знаёмых, што нават не падступішся!

Што здарылася?

— Ды нічога асаблівага. Муж, праўда, стаў дырэктарам.

Павел ШЫБУТ

Атрымаўшы музычную адукацыю, варона каркала, як і раней... Толькі цяпер — па нотах.

●

Рыдлёўка перавыконвала вытворчыя планы — памочнікам быў экскаватар.

Віктар ШАЎЧЭНКА

Токар добра ўмеў толькі адно — тачыць лясы.

●

Не любіў прайграваць. Нават прайгравальнік грампласцінак называў выйгравальнікам.

## УКРАІНСКІЯ НАРОДНЫЯ ЎСМЕШКІ

### ДАГАНДЛЯРЫЛІСЯ

Паехалі бацька з сынам на кірмаш пшаніцу прадаваць. Сын ды і кажа бацьку:

— Ты, тата, будзеш гандляваць, а я рэшту даваць...

Прайшло трохі часу, сын і крычыць бацьку:

— Годзе, тату, гандляваць!

— Чаму? — пытае бацька.

— Ужо няма чым рэшту даваць!..

### ПРА ПАПА І СЕЛЯНІНА

Да аднаго селяніна западзіўся поп. Ходзіць і ходзіць, а яго ж частаваць трэба. Аднаго разу прыйшоў поп, а селянін — на курэй:

— Кыш, кыш! Каб вас сабакі з'елі!

Тут бацюшка і кажа:

— Хіба ж можна так на божую птушку лаяцца? Ты ўжо хоць так кажы: «Каб вас бацюшка з'еў!»

І вось ідуць яны неяк удваіх вуліцай, а сабакі з брэхам — на іх! Селянін як закрычыць на ўсю вуліцу:

— А, цыц! Каб вас бацюшка з'еў!

### ПАНІ І НАЙМІЧКА

Толькі ад пані кавалер выйшаў, глянула яна ў акно і ў твары змянілася — муж яе ідзе... Перапалохалася пані і да наймічкі:

— Тэкля, як цябе пан будзе пытаць, да каго прыходзіў кавалер, то скажы, што да цябе...

— О, не, пані, калі я скажу пану, што да мяне, то ён яшчэ больш лютаваць будзе.

### У СУДЗЕ

СУДДЗЯ. Што вы можаце яшчэ дадаць у сваё апраўданне?

СЕЛЯНІН. Нічога, пане суддзя, бо апошні рубель аддаў пісару.

**Пераклаў Васіль ТКАЧОЎ.**

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.



Індэкс 63856 АТ 07993

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 33-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-24-62, аддзела культуры — 33-21-53, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.